# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 6 (268) 11 — 17 лютага 1997 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ



# "...ХОЧАЦЦА БОЛЬШ РАДЗІМЫ"

***Аб чым можна размаўляць з мастаком у Дзень святога Валянціна? А яшчэ, калі мастак — жанчына? Больш таго, дадам, што і імя мастачкі Валянціна Бартлава. Кажуць, што Творца часцей адказвае на пытанне на мове Мастацтва, якім жыве. І ўсё ж такі, я паспрабавала падчас інтэрв'ю ўбачыць спачатку Жанчыну, а потым вядомага мастака-габеленшчыка, цікавага выкладчыка...***

**— Валянціна Пятроўна, відаць, Вам штогод дасылаюць "валянцінкі" ў такі дзень?**

— Як ні дзіўна, але два гады таму я ўпершыню даведалася пра Дзень закаханых ад сваіх родных. Хаця, упэўнена, што наш свет трымаецца на Любові і Каханні.

**— Калі прасачыць за сюжэтамі ці персанажамі Вашых работ, то, шчыра скажу, тэма кахання ў Вашай творчасці не на першым месцы. Кастусь Каліноўскі, Мікола Гусоўскі, Максім Багдановіч — імёны, зразумела, гучныя, і даўно яны сталі гісторыяй нашай краіны.**

— Ведаеце, калі я працавала над дыптыхам "Набат", я літаральна закахалася ў галоўнага персанажа сваіх палотнаў. Я лёгка акунулася ў 1863 год, у думках хадзіла па вулачках Вільні, разважала над матывам паўстання, якім кіраваў Кастусь Каліноўскі... Кожны творца, мне здаецца, перш за ўсё павінен любіць, а толькі потым будзе здольны спасцігнуць ступені Мастацтва. Безумоўна, калі разважаць па-філасофску, больш шырока, то тэма Любові і Кахання будзе мець не адзін аспект: як любоў да Жанчыны ці Мужчыны. Мяне можна абвінаваціць зараз у кан'юнктурным патрыятызме, толькі я буду шчырая, калі скажу: на любым узроўні майго існавання і творчасці мне заўсёды хочацца крыху больш... Радзімы. І ў маім доме, і ў маёй майстэрні...

**— Па гараскопе Вы — Дзева. У першую чаргу гэты знак аддае перавагу сімвалам.**

— Я таксама маю сімвал — Дрэва. Я ўяўляю Дрэва як сімвал сувязі Зямлі і Космасу. Карані падсілкоўваюцца сокамі ад Зямлі, а галінкі цягнуцца да Сонца. Калі хочаце, Дрэва можна параўнаць з ладам існавання самога чалавека. Адчуваеш гармонію зямнога і касмічнага пачаткаў. Між іншым, Дрэву адпавядае розны настрой. Мне зразумелы і блізкі вобраз Сумнага Дрэва.

*Жанна* **ВАСАНСКАЯ**



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

Калаж Наталлі ОВАД

НАТАТНІК ТЫДНЯ

# "ЛЕТАПІС": ЛЮТАЎСКІЯ ПРЭМ'ЕРЫ

У Доме літаратара прайшлі прэм'еры кінастужак, створаных на аб'яднанні "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм". Уразіла запоўненая зала, як сведчанне таго, што гэты від мастацтва яшчэ карыстаецца поспехам у гледачоў. Удзельнікам кінавечара былі прадстаўлены дзве кінастужкі: "Апошні сон Барыса Сачанкі" і "Ад прадзедаў спакон вякоў...".

Фільмы працягваюць тэматычныя і творчыя пошукі беларускіх кінадакументалістаў, звязаных з распрацоўкай у кінамастацтве праблем беларускай культуры.

Фільм "Апошні сон Барыса Сачанкі" (аўтар сцэнара Галіна Багданава-Сачанка, рэжысёр Мікалай Князеў, аператар Леў Слобін) — невялікі, дзесяціхвілінны нарыс, прысвечаны асобе пісьменніка. Зразумела, што перад аўтарамі стаяла дастаткова складаная задача. Стваральнікі новай кінастужкі паспрабавалі пазбегнуць штампаў "біяграфічнага" фільма з пералікам заслуг, якіх, безумоўна, у Сачанкі шмат. Фільм "Апошні сон Барыса Сачанкі" — спроба на канкрэтным лёсе нашага славутага пісьменніка падысці як да адвечных філасофскіх тэм жыцця і смерці, так і да маральна-этычных, звязаных з сумленнем і гонарам чалавека, адказнага за лёс культуры...

У стужцы выкарыстаны цікавы драматургічны ход. Яна кранае інтанацыяй шчырасці, цэласнасцю і арганічнасцю творчага рашэння.

Кінастужка "Ад прадзедаў спакон вякоў..." (аўтар сцэнара Алег Лойка, рэжысёр-аператар Юрый Гарулёў) выклікала таксама шмат эмоцый у прысутных на прэм'еры. Тэма фільма — беларуская мова. Аўтары стужкі наўмысна адмовіліся ад публіцыстычнага асэнсоўвання праблем існавання беларускай мовы ў сучасным жыцці. Яны звярнуліся да эмацыйнага боку гэтай праблемы і яшчэ раз нагадалі сваім суайчыннікам, што ім дадзена магчымасць валодаць старажытнай прыгожай мовай з багатай гісторыяй. Звярнуўшыся да паэтычна-вобразнага рашэння тэмы, аўтары таксама запрасілі да ўдзелу ў стужцы дастаткова цікавых людзей: прафесара Льва Шакуна (гэта апошняе яго з'яўленне ў фільме), пробашча касцёла святых Сымона і Алены Уладзіслава Завальнюка, мастакоў братоў Басалыгаў, Алеся Белакоза і іншых...

У фільме выкарыстаны таксама багаты іканаграфічны матэрыял — хроніка розных падзей апошніх дзесяцігоддзяў, мноства цудоўна знятых беларускіх краявідаў. Гучалі вершы беларускіх паэтаў...

Нельга сказаць, што новыя кінастужкі абсалютна дасканалыя ў творчых адносінах. Адчуваецца складанасць эканамічнага становішча. Рэдактар "Летапісу" Уладзімір Мароз, які вёў вечар, прызнаўся, што з адыходам былога галоўнага архіва ў Белых Слупах пад Масквой да Расіі стала складана атрымліваць хранікальны матэрыял.

Дакументальныя кінастужкі даволі рэдка з'яўляюцца на вялікіх экранах, апроч прэм'ерных і фестывальных паказаў, яны дэманструюцца ў асноўным на БТ. І, здаецца, на эстэтыцы фільмаў ужо адбіваецца падсвядомая арыенціроўка рэжысёраў на "малы экран". Адсюль — запаволенасць рытму, зварот да буйных планаў з "гаворачымі галовамі"...

Але галоўнае, што ў фільмах не адчуваецца ўнутранай разгубленасці і адчаю.

**Галіна ШУР**

# СТРАКАТЫЯ ПАДЗЕІ

* * *

У Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў з 1 па 3 лютага прайшла выстава аб'ёмнай вышыўкі (абразы, краявіды, кветкі) Тамары Багданавай. Экзатычнасць зробленай экспазіцыі выклікала ў наведнікаў самыя добрыя ўражанні.

* * *

У бібліятэцы імя Янкі Купалы 4 лютага грукалі ў свой легендарны складны Тазік, чыталі вершы і спявалі песні ўдзельнікі літаратурнага руху Бум-Бам-Літ. Выступленне прысвячалася жыхарам падводнага свету. Таму акрамя чытання і спеваў паэты дэманстравалі практычныя сцэнкі з жыцця кітоў.

* * *

З нагоды Дня нараджэння музыкі Боба Марлі ў новым танцавальным клубе "Джунглі" 8 лютага адбылася буйная дыскатэка. Як напярэдадні паведамілі адпаведныя афішы: "весялосць + шум + поўны ўлёт". Так яно і атрымалася.

* * *

9 лютага ў фэст-цэнтры "Акварыум" адгучаў канцэрт, зроблены мінскім рок-гуртом "NRM". Гарадскія ўлёткі паведамілі, што на час музычнай ігры ўсе слухачы трапяць у "Незалежную Рэспубліку Мроя".

* * *

12 лютага ў Палацы культуры Трактарнага завода адкрываецца рок-клуб "Тры парсючкі". Гэта ўжо фактычна другое нараджэнне "трох сябрукоў". Прыхільнікі клуба чакалі амаль цэлы год, каб "Тры парсючкі" зноў заспявалі і затанчылі.

* * *

14 лютага ў Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў пры фінансавай падтрымцы маладзёжнага цэнтра "Хамер", студыі "Рекордс"і фірмы "Кока-Кола" будзе праходзіць канцэрт з удзелам гурта "Нэцке", джаз-дуэта Таццяны Шчарбаковай і Уладзіміра Угольнікава, барда Аляксандра Кальцова і гурта "Партызанскі раён".

* * *

У мастацкім цэнтры "Жыльбел" (Дом прыроды ў Траецкім прадмесці) 14 лютага адкрыецца выстава твораў студэнтаў Акадэміі мастацтваў, прымеркаваная да Дня Святога Валянціна (жывапіс, графіка, скульптура).

Тамсама 20 лютага адкрыецца выстава твораў мастака Валянціна Губарава.

**Падрыхтаваў Зміцер ВОЛКАЎ**

# СТАРОНКІ З АЛЬБОМА



*Уладзімір Караткевіч, пісьменнік, сцэнарыст.*

Мінуў час, калі для нас "з усіх мастацтваў важнейшым з'яўлялася кіно". І неяк крыўдна стала за сваю кінастудыю "Беларусьфільм", якой шмат маіх сяброў аддалі ўсе сілы, здароўе і жыццё...

Здымаліся фільмы, якія любіў наш глядач і якія адначасова крытыкавалі, але ўрэшце так і павінна быць, бо наша творчасць заўсёды ўспрымаецца неадназначна...

Так пачаў сваю невялікую прадмову да фотаальбома кінааператар-пастаноўшчык Ігар Рэмішэўскі. У аснову альбома пакладзены яго ўласны архіў, бо ўвесь час работы на "Беларусьфільме" (першы фільм быў зняты Рэмішэўскім у 1961 г. у альманаху "Апавяданні пра юнацтва") ён здымаў людзей, з якімі сутыкаў яго лёс, здымаў пейзажы, рабочыя моманты, здымаў "кіношную сям'ю". Гэты альбом Ігар Рэмішэўскі прысвячае і сваім калегам, і тым, хто любіць кіно — яго гледачам.

**Наш кар.**







*1966 г. На здымках фільма "Іду шукаць" Ігар Дабралюбаў, Юрый Цвяткоў, Юрый Альбіцкі.*

# КІНАлоцыя

* * *

У Саюзе кінематаграфістаў Беларусі адбылася вечарына, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння кінарэжысёра Барыса Міхайлавіча Сцяпанава. Ён належаў да пакалення шасцідзесятнікаў і дэбютаваў у беларускім кінематографе разам з Віктарам Туравым і Ігарам Дабралюбавым у кінаальманаху "Апавяданні пра юнацтва".



У мінулым годзе Саюз ужо праводзіў вечарыну, прысвечаную 30-годдзю з часу стварэння фільма Барыса Сцяпанава "Альпійская балада", першай экранізацыі твораў Васіля Быкава ў айчынным кінематографе. На юбілейным вечары дэманстравалася кінастужка "Апошні хлеб", створаная рэжысёрам у 1963 г. З успамінамі выступілі доктар філалагічных навук Е.Бондарава, доктар мастацтвазнаўства А.Красінскі, кінааператар А.Аўдзееў.

*На здымку: Барыс Сцяпанаў.*

* * *

У кінастудыі "Таццяна" ў разгары падрыхтоўка да IV Міжнароднага кінафестывалю жаночага кіно. Арганізатары фэсту апроч рашэння розных складаных арганізацыйных праблем заняты адборам кінастужак для ўдзелу на МКФ, якія прыходзяць у штаб фестывалю з розных краін і кантынентаў.

**Г.Ш.**

# ВІНШУЕМ!

***За дасягнутыя поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, актыўную работу па прапагандзе народных традыцый калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прысвоіла ганаровыя найменні:***

***"НАРОДНЫ САМАДЗЕЙНЫ КАЛЕКТЫЎ":***

— жаночаму хору "Бярэзінačка" Домжарыцкага сельскага Дома культуры Лепельскага раёна Віцебскай вобласці;

— аркестру духавой і эстраднай музыкі Наваполацкага гарадскога Палаца культуры Віцебскай вобласці;

— клубу народных майстроў і мастакоў "Крыніцы" Лёзненскага раённага Дома рамёстваў Віцебскай вобласці;

— клубу народных майстроў "Майстар" Чашніцкага Дома рамёстваў Віцебскай вобласці;

— хору Турэцкага цэнтральнага Дома культуры Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці;

— вакальнаму ансамблю "Вербніца" Чэрвеньскага раённага цэнтра культуры і адпачынку Мінскай вобласці;

— ансамблю народнай песні "Ярыца" Любанскага раённага цэнтра культуры і вольнага часу Мінскай вобласці;

— ансамблю народнай песні "Шчодрыца" Лагойскага раённага Дома культуры Мінскай вобласці;

— ансамблю народнай музыкі "Славяначка" Коласаўскай дзіцячай музычнай школы Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці;

— студыі дызайну адзення "Цукерка" дзіцяча-юнацкага цэнтра "Ранак" Маскоўскага раёна г.Мінска.

***"УЗОРНЫ САМАДЗЕЙНЫ КАЛЕКТЫЎ":***

— духавому аркестру Бароўскай дзіцячай музычнай школы Лепельскага раёна Віцебскай вобласці;

— студыі "Жывапіс" Наваполацкага гарадскога Палаца культуры Віцебскай вобласці;

— хору сярэдняй школы № 201 г.Мінска.

# У КАМЕРНАЙ ЗАЛЕ ФІЛАРМОНІІ

Нягледзячы на тое, што ідзе ўжо трэці — апошні — зімовы месяц і не за гарамі вясна з яе звонкімі капяжамі і пранізліва-блакітным небам, ураджанне складваецца такое, што ў сталіцы ўсё яшчэ працягваецца "Беларуская музычная восень". 4 лютага ў камернай зале філармоніі (Залатая Горка, касцёл Святога Роха) адбыўся канцэрт музыкі XX стагоддзя. У першым аддзяленні прагучалі творы Франсіса Пуленка. Другое ж аддзяленне канцэрта было прысвечана прэм'ерам, новым музычным творам Галіны Гарэлавай і Дзмітрыя Смольскага. Дасканаласць і віртуознасць выканання Я.Гелера і Т.Таруцінай яшчэ выразней падкрэслілі значнасць гэтых новых твораў у музычнай культуры нашай краіны.

**А.Р.**

# РОК І ЛЁС: ЗАПРАШЭННЕ НА КАНЦЭРТ

Усім, хто любіць добрую музыку, "Клас-клуб" і часопіс "Евростиль" прапануюць наведаць канцэрт Аляксандра Градскага, які адбудзецца 22 лютага а 19-й гадзіне ў канцэртнай зале "Мінск". Гэта імпрэза праходзіць у межах буйнога канцэртнага цыкла "Галівуд рок", спадзяюся, што яго арганізатары падораць нашым аматарам музыкі яшчэ не адну сустрэчу з айчыннымі і замежнымі "зоркамі". Меламанам са стажам, безумоўна, не трэба тлумачыць, хто такі Аляксандр Градскі, а для больш маладых слухачоў — літаральна некалькі словаў пра гэту легендарную асобу. У 60—70-х ён быў адным з заснавальнікаў рускага рока і духоўных пастыраў маскоўскай хіпуючай моладзі. Градскі напісаў музыку да фільма "Раманс пра закаханых" Андрона Міхалкова-Канчалоўскага, стварыў некалькі опер... 22 лютага ў зале "Мінск" вы будзеце мець магчымасць пачуць яго праграму "Несвоечасовыя песні". Кошт квіткоў, на жаль, даволі высокі — 150 — 160 тысяч рублёў, але вы не пашкадуеце, калі наведаеце гэты канцэрт.

**Ірына БАРАВАЯ**

# "СЛОВА" ПРА КНІГУ

Сучаснаму чалавеку бывае цяжка выбрацца з інфармацыйнай ракі, якая з кожным днём робіцца ўсё больш "паўнаводнай". І самы час падаваць SOS, прасіць паратунку. "Выратавальным колам" можа стаць новы тыднёвік "Современное слово", які выбраў сваім крэда выказванне Плінія Малодшага "Чытаць трэба шмат, але не ўсё..." Тыднёвік бярэ на сябе ролю лоцмана ў кніжным моры.

6 лютага выйшаў першы нумар газеты. "Гэтая газета для тых, хто любіць кнігу, хто ўмее і ведае што і як чытаць. Газета для тых, хто сам піша і афармляе кнігі, а таксама рыхтуе іх да публікацыі, і хто займаецца кніжным гандлем ці бібліятэчнай справай, даносіць друкаванае слова да масавага чытача. Знойдуць для сябе цікавае ў нашай газеце і тыя, хто друкуе кнігі, хто пастаўляе для кнігавыдання паперу, фарбы, станкі, абсталяванне. Як вы зразумелі, гэтая газета — для ўсіх нас". З такімі словамі да чытача звярнуўся рэдактар "Современного слова" Мікалай Барысенка.

Выдаўцы тыднёвіка ўзяліся за добрую справу, рэалізацыя дадзенай ідэі павінна прынесці плён. Па адным нумары цяжка рабіць нейкія высновы, аднак можна паспрабаваць. Газета атрымалася даволі насычанай і цікавай, з самай разнастайнай інфармацыяй, але з наступнага нумара, відаць, варта ствараць нейкую сістэму. Хоць газета выдаецца ў Беларусі, але беларускі матэрыял амаль адсутнічае. Увогуле, першы нумар пакуль атрымаўся "лікбезоўскага" ўзроўню, аднак адчуваецца вялікі творчы запал стваральнікаў выдання. Зычым жа ім "вялікага плавання" ў кніжным моры.

**Міхась БАШУРА**

# МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫ ДЫЯЛОГ У МАСКВЕ

Інстытут сусветнай літаратуры імя М.Горкага (Расійская Акадэмія навук) распачаў серыю работ, прысвечаных навуковаму пошуку ў сферы панацыі Нацыя, Асоба, Літаратура і іх карэнная узаемаабумоўленасці.

Першым праектам серыі стаў зборнік "Нация. Личность. Литература". Супрацоўнікі аддзела літаратур народаў Расіі і блізкага замежжа, якія каардынуюць выданне, імкнуцца "паглыбіць, а дзе гэта неабходна — перагледзець метадалагічныя падыходы да даследавання літаратурных з'яў, выйсці за межы вузкіх сацыяльна-класавых ацэнак".

Працягам праекта стала навуковая канферэнцыя "Літаратурная дыяспара. Праблема нацыянальнай ідэнтычнасці", якая прайшла ў Інстытуце 29 студзеня. Агучаныя даклады прадэманстравалі шырокі спектр падыходаў да праблемы як паводле геаграфіі, так і метадалогіі. Сярод іх варта вылучыць спавешчанні Аляксея Чагіна "Барыс Паплаўскі: рускі паэт у Францыі", Казбека Султанава "Паэзія паўночнакаўказскай эміграцыі: матыў гістарычнай радзімы", Аляксея Каўкі "Татарская дыяспара ў кантэксце беларускай культуры", Вячаслава Рагойшы "Беларуская дыяспара ў Польшчы". На канферэнцыі абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з гісторыяй татара-башкірскай і абхазскай літаратурных дыяспар у Турцыі, украінскай — у Расіі, жыццём і фармаваннем армянскай супольнасці ў ЗША, літаратурнай інгушскай дыяспары.

Інстытут фактычна становіцца інтэрнацыянальным цэнтрам, дзе стымулюецца нацыянальнае мысленне. Тут праводзіцца актыўная работа па абмене інфармацыяй і вопытам, якая дазваляе прадстаўнікам розных народаў знайсці агульную мову і лепш зразумець свой гістарычны лёс.

**Алесь ТУРОВІЧ**

СІТУАЦЫЯ



**Калі ў краіне, мякка кажучы, не вельмі ўстойлівая эканамічная сітуацыя, усе пераезды і перамяшчэнні розных устаноў, што апошнім часам у рэспубліцы носяць ледзь не масавы характар, выклікаюць не толькі вялікія фінансавыя праблемы, але і маральныя, якія нават могуць прывесці да канфліктных сітуацый. А іх і трэба старацца гасіць у самым зародку.**

# МУЗЕЙ І КАНФЕРЭНЦ-ЗАЛА — РЭЧЫ НЕ СУМЯШЧАЛЬНЫЯ?



## ПАМПЕЯ XX СТАГОДДЗЯ

У Беларусі ёсць незвычайны музей. Называецца ён "Музей старажытнабеларускай культуры". А незвычайным яго робіць вялікая экспазіцыя "Помнікі этнаграфіі і народнага мастацтва чарнобыльскай зоны". Такога няма не толькі ў СНД, а ўвогуле ў свеце.

Самаахвярныя людзі, супрацоўнікі музея на чале з яго дырэктарам Віктарам Шматавым накіраваліся ў страшную трыццацікіламетровую зону і не дзеля цікаўнасці і бравады, а дзеля цяжкай і небяспечнай для здароўя працы. Яны знаходзілі ў спешна кінутых вёсках старажытныя побытавыя прылады, якімі карысталіся тамтэйшыя жыхары, саматканыя сукенкі і кашулі, а потым выратоўвалі іх, самі рабілі першую дэзактывацыю. Навукоўцы, нягледзячы на шалёны пошчак дазіметраў, захоўвалі ад, здавалася, не мінуючага забыцця і гібелі тое духоўнае, што тоіцца ў драўляных, на першы погляд, нязграбных вырабах: ступах, дзежках, кроснах, вуллях.

І колькі поту, ласкі, працы, думак, песняў і мрояў нашых бабуль і дзядуль, іх ціхай, жыцейскай мудрасці ўвабралі ў сябе гэтыя няхітрыя прылады! Існуе вера дый і чалавечае перакананне, што ўсе рэчы, якія доўга служаць людзям, акумулююць у сабе ад гэтых людзей іх станоўчую біяэнергію, што можа загойваць не толькі духоўныя раны, але, магчыма, і фізічныя.

А ў калекцыі сабраныя як побытавыя экспанаты, так і творы мастацтва. Варта толькі паглядзець на абраз Божай маці, каб у замірэнні спыніцца, пачуць біццё свайго сэрца і хоць на імгненне далучыцца да Святога, Адвечнага і на трошачкі ў нечым аднавіцца, ачысціцца.

Таму з усіх куткоў свету прыязджаюць сюды людзі. Іх яшчэ не вельмі шмат, але яны, пачуўшы пра незвычайны музей, будуць ехаць і ехаць.

Пампеяй XX стагоддзя назвала экспазіцыю "Помнікі этнаграфіі і народнага мастацтва чарнобыльскай зоны" адна наведніца з Вялікабрытаніі.

— Самае галоўнае,— кажа доктар мастацтвазнаўства, мастак, дырэктар музея Віктар Шматаў, — што гэта звонкая і цудоўная этнаграфія Беларусі. Як ні дзіўна, наша краіна унікальная, бо да XX стагоддзя данесла гэткія рэчы. Калі да нас прыходзяць немцы, яны здзіўляюцца, таму што ў Еўропе, дзвесце гадоў таму такія рэчы беззваротна зніклі, знайсці падобныя можна толькі ў асобных адмысловых музеях. А ў нас нават дагэтуль сустракаюцца мясціны, дзе з такімі ступамі дагэтуль працуюць бабулькі. Прылады перадаюцца ў сям'і з пакалення ў пакаленне.





*У зоне: унікальны экспанат, 1994.*



Выратаваныя з-пад радыяцыйнага попелу рэчы ашчадна захоўваюцца. Выдадзены каталог, гэтыя помнікі ўвайшлі ў еўрапейскую картатэку, і больш таго, каталог пасланы ў Францыю, і ёсць перспектывы, што Музей старажытнай беларускай культуры будзе ўключаны ў еўрапейскі пералік унікальных музеяў, бо помнікі вывезены з-пад радыяцыі. Так, яны прайшлі дэзактывацыю, ёсць дакументы, што іх можна дэманстраваць.

## ЭКСПАЗІЦЫЯ І ЯЕ СУСЕДЗІ

Аднак усе гэтыя помнікі нашае старажытнасці, сведкі нашай духоўнай даўніны, вынесеныя з полымя, цяпер зноў аказаліся пад пагрозай знікнення. Яны могуць невядома на колькі часу трапіць у замкненне, у незлічоныя, нікому не вядомыя запаснікі, склады, каморы. Іх цеплыню знішчыць смяротная цемра інстытуцкіх сутарэнняў, унікальныя і вядомыя за межамі нашай краіны экспанаты могуць сысці ў нябыт.

Складваецца ўражанне, што наіўныя, самаробныя вясковыя прылады трапілі ў страшэнную завіруху мітусні сучаснага крызіснага горада, які задыхаецца ад недахопу памяшканняў, бо няма сродкаў будаваць новыя, які шалёна змагаецца сам з сабою за свае прэстыжныя раёны і кварталы. У гэткіх сітуацыях установы культуры заўсёды слабейшыя, чым іх апаненты, бо не маюць патрэбнай "хваткі" і фінансава самі сябе не забяспечваюць. Дый і стаўленне дзяржавы да іх у цяперашняй сітуацыі больш нагадвае мужыцкую прымаўку: "баба з возу — каню лягчэй".

Але ж без культуры не будзе дзяржавы, як, дарэчы, і культуры без дзяржавы, бо існуе справядлівае вызначэнне: як ты ставішся да ўласнае культуры, да духоўных скарбаў свайго народа, гэткім чынам будуць ставіцца і да цябе. Якое ж складзецца ў той жа Францыі меркаванне, калі там даведаюцца, што унікальны музей на мяжы выжывання? Наўрад ці гэты факт выкліча разуменне і павагу.

Дый і праблема з Музеем старажытнабеларускай культуры ўзнікла зусім недарэчна. Рэч у тым, што яшчэ ў 1993 годзе Пастановай бюро Прэзідыума Акадэміі навук Беларусі Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ былі выдзелены плошчы ў холе былога канферэнц-зала Інстытута эканомікі. Фактычна музей размяшчаецца ў пераходзе паміж двума высотнымі будынкамі акадэмічнага гарадка,— адзін па вуліцы Сурганава, 1/2, другі па вуліцы Ф.Скарыны, 25.

І вось цяпер увесь будынак па вуліцы Ф.Скарыны перададзены факультэту міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Ужо з'ехалі адтуль акадэмічныя інстытуты. І высвятляецца, што студэнтам, як нішто на свеце, неабходна вялікая канферэнц-зала, якой у тым будынку няма, яна пабудавана асобна паміж двума шматпавярховікамі. Зала засталася на балансе Акадэміі Навук і абслугоўвае гуманітарнае аддзяленне, куды ўваходзяць ажно сем інстытутаў, якія таксама маюць патрэбу ў правядзенні масавых мерапрыемстваў: лекцый, канферэнцый, сустрэч навукоўцаў.

Дый самае галоўнае, што ніхто не супраць, каб студэнты карысталіся гэтай залай, але калі яна будзе перададзена БДУ, то ўзнікае заканамерная занепакоенасць, што адначасова з ёй будзе перададзены і хол, і пераход, які вядзе да яе, а значыцца і плошчы, якія займае экспазіцыя музея, менавіта прысвечаная чарнобыльскай тэме. А перанесці ці перарасфарміраваць экспазіцыю, па словах дырэктара музея, немагчыма, бо яна складае тэматычнае цэлае, там — "хлеб" (начынне для прыгатавання хлеба), там "ткацтва", потым прылады сялянскай працы, прылады рыбалоўства, сялянскі інтэр'ер, народны інструмент, а потым вельмі каштоўнае, — іканапіс адселеных рэгіёнаў,— усё ў строгім парадку, каб складалася суцэльная паўнавартасная карціна сялянскага жыцця таго шматпакутнага рэгіёна.

Праўда, пакуль размова пра ліквідацыю музея не ідзе, і яго супрацоўнікі згодныя, няхай студэнты праходзяць у канферэнц-залу праз экспазіцыю, толькі б зала заставалася ў Акадэміі навук, каб музей адчуваў грунт пад сваімі нагамі, бо пасля можна вельмі лёгка загадаць прыбраць са шляху студэнтаў усе "пабочныя" рэчы.

Супрацоўнікі музея нават прапануюць зрабіць шкляныя ці дэкаратыўныя дашчата-сетчатыя дзверы-гармошкі дзеля аховы помнікаў культуры ад скразняку і вільгаці, тады пераход да залы можа нармальна функцыянаваць. Дый увогуле студэнты-міжнароднікі — гэта эліта грамадства, і бачыць перад сабой духоўную спадчыну, адчуваць, як жылі іх продкі, далучацца да духоўных каранёў народа і, вядома, ашчадна да іх ставіцца для нашай эліты будзе лагічна і правільна. Музей і БДУ могуць і павінны па ўсіх чалавечых законах стаць добразычлівымі суседзямі і дапамагаць адзін аднаму.

Самае галоўнае зараз — знайсці разумнае і, калі так можна выказацца, акуратнае вырашэнне праблемы, каб адной паперай ці подпісам не парушыць знойдзенае музеем статус-кво, каб не разышлася унікальная калекцыя, каб духоўны Чарнобыль не паглынуў тое дзівоснае і крохкае, што выратавалі навукоўцы дзеля нашчадкаў ад ядзернага Чарнобыля.

**Серж МІНСКЕВІЧ**

## КАМЕРТОН

# ЯДНАННЕ ШЛЯХАМ САМАСТОЙНАСЦІ

***Музыка — найвышэйшы від мастацтва. З гэтым спрачацца не даводзіцца: сімфонію Дзмітрыя Шастаковіча можна ўспрыняць як аповед пра вялікую трагедыю Вялікай Айчыннай, а можна пачуць яе і без прывязкі да пэўнага часу і абставін — як эмацыйны пратэст супраць рабства, прыгнёту, супраць жорсткасці. Арыя Фігара з "Севільскага цырульніка" лёгка ўспрымаецца і адпавядае ментальнасці нашага сучасніка. Магчыма, нават прасцей, чым сучаснікамі Расіні. Таямніца ўздзеяння музыкі на духоўны свет чалавека, якая адбываецца на ўзроўні падсвядомасці, да канца не вытлумачаная псіхолагамі і наўрад ці будзе імі разгадана. Несумненна адно: музычны твор уздзейнічае на чалавека эмацыянальна, а значыць увaходзіць у яго культурную памяць, узбагачае яго духоўна. Таму прыходзім мы і ў оперны тэатр, і ў філармонію як у храм, каб адарвацца ад будзённасці, узвысіцца душой, аддаць сябе ва ўладу Яе Вялікасці Музыкі. Але ці задумваемся калі, колькі працы за гэтай бліскучай дзеяй, якую мы назіраем і слухаем на сцэне, якая вялікая работа праводзіцца да таго, як перад нашымі вачыма праходзіць закончаны спектакль? Пра гэта распавядае сёння госць газеты "Культура", дырэктар творчага аб'яднання "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь" Анатоль КІРЫЕНКА.***

**— Анатоль Піліпавіч, вы не так даўно прыйшлі на гэтую пасаду. Напачатку раскажыце крыху пра сябе, дзе Вы працавалі раней?**

— Да нядаўняга часу займаў пасаду начальніка ўпраўлення па справах мастацтваў рэспубліканскага Міністэрства культуры. Але працуючы там, не забываўся на оперны тэатр, бо некалькі гадоў таму быў намеснікам дырэктара па творчых пытаннях. І вось — прызнаюся шчыра — для мяне пачаўся такі складаны перыяд, які я вызначыў бы так: настальгія па оперным, па яго атмасферы. А тут якраз прапанова: вярнуцца туды ўжо дырэктарам творчага аб'яднання. Адразу даў згоду, хоць і ведаў, што працаваць будзе цяжка, але пайшоў на новую пасаду з радасцю, без сумненняў. Вяртаўся ж у знаёмы калектыў, да знаёмых праблем...

**— Дык якія праблемы ў першую чаргу давялося вырашаць?**

— Як вядома, зараз утворана творчае аб'яднанне, у якое ўваходзяць як самастойныя адзінкі тэатр оперы, тэатр балета, мастацка-эксперыментальны камбінат. Структура аб'яднання скіравана на тое, каб лягчэй і прасцей вырашаць гаспадарчыя пытанні. Найпершая з праблем, што паўстала ў сувязі з наваўтварэннем, — распрацоўка адзінага статута, яна патрабуе яшчэ шмат высілкаў, каб лагічна распрацаваць статут да канца, адпаведна інтарэсам усіх юрыдычных асоб, якія ўвайшлі ў аб'яднанне. Трэба вельмі тактоўна ўзгадніць усе пытанні ў межах статута, каб ніхто не быў пакрыўджаны. І тут ужо цяжка пераймаць нечы вопыт, бо такога вопыту ў нас пакуль няма, трэба набываць свой. А ён даецца цяжка: непазбежны памылкі, ніхто ж не можа сказаць канкрэтна, як трэба ісці, якім шляхам?

**— Раздзяленне тэатра на два асобныя — тэатр оперы і тэатр балета — выклікала меркаванні пра мэтазгоднасць гэтага кроку. Выказваліся розныя думкі і на старонках некаторых газет. Як на Ваш погляд, ці прасцей стала працаваць зараз?**

— Безумоўна прасцей. Сёння, калі тэатр оперы і тэатр балета выступаюць як самастойныя юрыдычныя адзінкі, калі кожны з іх мае свой разліковы рахунак, сваю касу, яны ў больш выгадным становішчы, чым былі раней. Нават чалавеку недасведчанаму адразу зразумелыя перавагі новага становішча з пункта гледжання гаспадарчага разліку. А творчае аб'яднанне апрача калектываў тэатраў уключае ў сябе яшчэ і грымёрную і жывапісную майстэрню, і ўсё абсталяванне тэатра — увесь той каркас, на якім усё трымаецца і без якога немагчыма творчая праца.

**— Як Вы ацэньваеце прэстыж тэатра на сённяшні дзень?**

— Працаваць у оперным тэатры заўсёды было прэстыжным для творчых работнікаў. Але да нядаўняга часу ў нас былі вельмі нізкія зарплаты, і людзі разбягаліся, шукалі лепшай работы, вышэйшых акладаў. Зараз жа ў сувязі з утварэннем творчага аб'яднання нам павялічылі зарплату.

**— Усё ж такі ўладу маючыя звярнулі ўвагу на ваш тэатр.**

— Так, і я вельмі ўдзячны ім за гэта. Творчым работнікам — салістам і аркестру, заробак павялічаны амаль у два разы. І адразу праблема ўкамплектавання штатаў знікла, людзі сталі прасіцца да нас на работу. Але, на вялікі мой жаль, да гэтага часу не ўдалося павялічыць зарплату тэхнічным работнікам тэатра, як гэта ўжо зрабілі ў тэатры імя Янкі Купалы. Не магу пераказаць, колькі з гэтай нагоды пісаў, патрабаваў, прасіў. Як кіраўнік, я проста не магу дазволіць, каб гардэробшчыца выйшла да наведнікаў тэатра бедна апранутая.

**— Мне зараз успомнілася знакамітае: "Тэатр пачынаецца з вешалкі..."**

— Некалі Станіслаўскі вызначыў ролю гардэроба ў тэатры такім чынам, гэтым я кіруюся ў рабоце нашага тэатра. Трэба трымаць пэўны ўзровень і, канечне, трымаць і матэрыяльную планку. А адкуль ён будзе, той узровень, калі заробак нізкі, калі работнік тэатра не можа набыць самага неабходнага для жыцця? Але я не адступлюся ад задуманага, у гэтым пытанні я — чалавек прынцыповы і, нават, настырны.

**— Анатоль Піліпавіч, якая атмасфера ў тэатры, як Вы ацэньваеце яго творчыя сілы?**

— Вялікі калектыў тэатра — салісты, аркестр, хор, балет, бутафоры, касцюмеры, грымёры — гэта вялікая дружная сям'я. Усе яны добразычлівыя адзін да аднаго і мэта ў іх адна: сваёю працай прынесці асалоду гледачам і слухачам. Ёсць і творчы багаж, і ён вельмі важкі. Дырыжора нашага аркестра Аляксандра Анісімава заангажавалі ў замежжа аж да 1999 года. Гэта ўжо паказвае, як высока нас ацэньваюць у замежжы, і я разумею, што гэта добра, але як жа мы без Анісімава? Тут ужо непазбежны цяжкасці. Цікавы як творчая асоба Елізар'еў, але чалавек складаны, характар няпросты.

**— Творчыя людзі заўсёды складаныя...**

— Відаць, так і павінна быць, бо ці змог бы чалавек з простым характарам, з банальным светаадчуваннем паставіць такія магутныя спектаклі, як "Стварэнне свету" альбо "Страсці"? І да кожнага з творчых асоб мы стараемся знайсці падыход, стварыць той неабходны камфорт, калі можна займацца толькі творчасцю, не думаючы пра хлеб надзённы.

**— Вы разважаеце як гаспадар, як бацька вялікай сям'і, як мудры чалавек. Поспехаў Вам у такой нялёгкай працы!**

**Гутарыла Алена РЫГОРАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**





# ШЭДЭЎР ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ

***Мастацка-эксперыментальны камбінат — новая назва былога вытворчага камбіната, які па-ранейшаму месціцца ў будынку опернага тэатра. Кожны з тых, хто працуе, — творчая асоба са сваім светапоглядам, уласнымі марамі, захапленнямі, праблемамі... Сярод іх — брыгадзір бутафорскага цэха, скульптар-бутафор вышэйшай кваліфікацыі Сяргей ІВАНОЎ.***

У ТЭАТРАЛЬНАЙ творчасці Сяргей Іваноў працуе дваццаць гадоў. У свой час ён быў мастаком-асістэнтам Яўгена Лысіка, рабіў макеты сцэнаграфіі да яго спектакляў. Самай складанай, але і вельмі каштоўнай была праца над макетам "Шчаўкунчыка". Разам з галоўным мастаком Сяргей Іваноў рабіў яго паўгода. У выніку атрымаўся сапраўдны шэдэўр, які з'яўляецца самацэнным мастацкім творам. У ім надзвычай паэтычна ўвасоблены крохкі і ўзвышаны свет казачнай краіны дзяцінства, створаны з танюсенькіх дроцікаў, спаяных і пераплеценых паміж сабой, з маленькіх скульптурак, якія ўтвараюць перспектыўнае паглыбленне далягляду.

Іншае ў макеце балета "Карміна Бурана" сцэнографа Эрнста Гэйдэбрэхта. Тут, на ўласны погляд Іванова, дадзена вялізная панарама жыцця з віхурамі і кружэннямі, — вобразна-метафарычная стыхія вагантаў, гэтых таленавітых старажытных "юнакоў-хіпі". У заднім разрэзе макета — зменныя жывапісныя пазіцыі, напярэдзе — дынамічнае жыццё — баль, каханне, вясна... Надзвычайны сцэнаграфічны знаходкай у ім з'яўляецца пад'ёмная рампавая завеса з выявай вясновага дрэва...

Творчая дзейнасць Сяргея Іванова на рэдкасць разнастайная. Ён захапляецца жывапісам: тройчы ўдзельнічаў у выставах тэатральных мастакоў у 80-я гады, некалькі яго твораў набылі тэатральныя студыі, а некаторыя проста зніклі пасля прагляду. У свой час афарміў шэраг спектакляў у тэатры-студыі Трактарнага завода, у оперный студыі Акадэміі музыкі. За сцэнаграфічную працу да п'есы "Жывi і помнi" (паводле аповесці Валянціна Распуціна) атрымаў прэмію Ленінскага камсамола.

Сяргей Іваноў скончыў Адэскае вучылішча бутафораў, потым двойчы паступаў у Мастацкую акадэмію, першы раз у Ленінградзе, другі — у Мінску, але фартуна чамусьці не спрыяла яму. Можа таму ён так сціпла ставіцца да сваёй мастацкай творчасці і лічыць яе "асабістым жыццём".

Шмат хто ведаў невялікае і ўтульнае кафэ "Тэатральнае" непадалёк ад тэатра оперы і балета, але, здаецца, амаль ніхто не цікавіўся, хто ж аўтар-афарміцель гэтага кафэ. Што ж, знаёмцеся, гэта — Сяргей Іваноў, які ў 1980 годзе па замове тэатра працаваў над інтэр'ерам і вестыбюлем гэтага кафэ. Вось толькі мая інфармацыя запозненая, бо Тэатральнага кафэ ўжо няма. Цяпер тут "Азіяцкая кухня"...

Творчае хобі Сяргея Іванова — стварэнне розных скульптурных праектаў і помнікаў. Ніводная з гэтых работ не была паказана публічна, хоць мастак заўсёды адгукаецца на розныя конкурсныя заклікі. У апошні момант іх аўтар чамусьці пачынае камплексаваць і лічыць уласныя творы "нявартымі", маўляў, "хто я такі?" Але ж тое, што мне давялося ўбачыць — Іваноў паказаў такі некаторыя скульптуры, — падалося мне арыгінальным і вартым увагі. У аснове адной з іх постаць знясіленай, змучанай жанчыны, якая сваімі схуднелымі рукамі разгойдвае звон. Яе трымаюць мужчынскі моцныя рукі, а жахлівы, прарэзлівы звон-набат — быццам немы крык душы, стогн-плач сэрца маці і жонкі па загінуўшых блізкіх.

Вось сімвалічны дух Свабоды, які праносіцца над руінамі Мінска... Гэты метафарычны вобраз таксама ж мог увасобіцца ў якой-небудзь скульптурнай кампазіцыі, выраваўшыся з бясслаўнай пластылінавай формы.

Да таго ж Сяргей Іваноў мае пачатковую музычную адукацыю, іграе на домры, балалайцы, гітары. Здзяйсненне ўсіх сваіх няспраўджаных творчых мараў, надзей, пакненняў ён бачыць у сваім сыне, які вучыцца ў Мастацкай акадэміі. Што датычыцца непасрэдна прафесіі скульптара-бутафора, то тут Іваноў імкнецца да пашырэння і ўвядзення ў вытворчасць пластыкавых форм. Пасля нашай размовы я ўжо добра ведала, што ёсць на вялікіх заводах спецыяльная венгерская машына "Супертэмпс". На яе пульце ўпраўлення ажно 500 ручак, 20 з якіх прызначаны толькі для ўводу гэтай тэхнікі ў патрэбны рабочы стан. На ёй вырабляюць пластыкавыя рэчы — з полістыролу. Такой магчымасці ў мастакоў-бутафораў пакуль што няма, таму даводзіцца абыходзіцца дрэвам і металам.

Скульптурна-бутафорскія вырабы Сяргея Іванова ўражваюць сваёй натуральнасцю, дакладнасцю. І сапраўды, цяжка здагадацца, што крышталёвы посуд у "Вайне і міры" зроблены з танюткай міліметровай "ангельскай" бляхі, апрацаванай алавяным пакрыццём і лакам, стрэльбы ў "Карсары" — драўляныя, а дыяменты — з пластыка і фальгі. Шмат бутафорскіх форм вырабляецца пры дапамозе пап'е-машэ. Памятаеце язычніцкіх ідалаў у балеце "Страсці" ці куфры з дарамі Уладзіміра? Скарыстанне тэхнікі пап'е-машэ ў вытворчым працэсе набывае разнастайныя варыянты ў залежнасці ад асабістай фантазіі таго ці іншага майстра, але асноўныя кампаненты — папера і клей — заўсёды нязменныя. Шмат даводзіцца працаваць з глінай і гіпсам. З гліны часцей за ўсё вырабляюцца першапачатковыя аб'ёмныя фігуры, з якіх потым здымаюць формы-маскі. А вось гіпс можа быць і складнікам якой-небудзь бутафорскай фактуры. Але ёсць у бутафорскім цэху асаблівая майстэрня, дзе займаюцца больш тонкімі дэкаратыўнымі формамі тэатральна-вытворчых вырабаў. Сярод змрочных падвальных завулкаў опернага тэатра яна падалася сапраўдным казачным павільёнам.

**Вера КАШТАЛЬЯН**
**Фота Васіля МАЙСЯЁНКА**




Валянцін АКУДОВІЧ

## КОЛЬКІ САНТЫМЕНТАЎ НА РАЗВІТАННЕ

Чаму так атрымалася — цяпер ужо не істотна. Але "ЗНО" болей не будзе. З гэтай нагоды трэба было б хоць трохі паплакаць, толькі плакаць чамусьці зусім не хацелася.

— А чаму табе не хочацца плакаць? — запытаўся я сам у сябе. — Гэта ж не жартачкі, "ЗНО", над якім ты шчыраваў амаль чатыры гады, узяло ды ляснула...

— Не хочацца, і ўсё, — адказаў я, зноў жа сам сабе. — Што мне цяпер вочы цыбуляй церці? Вунь, Атлантыда — ляснула, Савецкі Саюз — ляснуў і ніхто з гэтага асабліва не румзаў, а тут нейкае "ЗНО".

Гэта быў моцны аргумент — пра Атлантыду і Савецкі Саюз. Ён адразу выцер мае непралітыя слёзы, але, пэўна, не да рэшты, бо я неўпрыкмет абрынуўся ў сентыментальныя ўспаміны.

Найперш мне ўзгадаўся Полацак (Полацак заўсёды згадваецца паперадзе ўсяго), нейкая акадэмічная канферэнцыя, восеньскі сквер і мы, толькі пазнаёміўшыся з Ігарам Бабковым, адразу канстатуем: Беларусь без філасофіі тое самае, што шлюбная ноч без маладой.

Праз нейкі час мы сустрэліся з Ігарам ужо ў Мінску ў кавярні "Хвілінка" і падчас "кавовай цырымоніі" вырашылі, што каб на Беларусі была свая філасофія, трэба стварыць філасофскі часопіс. (Дарэчы, яшчэ ў філіжанках кава не паспела астыць, а мы гэта ўжо вырашылі. Тады неяк усё хутка вырашалася.)

Кава не гарэлка, яе можна піць і ўдвох, а вось філасофскі часопіс удвох не створыш — патрэбен нехта трэці. Дыскусія пра трэцяга лішне не доўжылася. Ім мусіў быць Алесь Разанаў. (Між іншым, тады без Разанава не распачынаўся ні адзін хоць чаго варты праект.)

Далей падзеі разгортваліся імкліва. Ліст у падтрымку ідэі філасофскага часопіса падпісалі столькі акадэмікаў, дактароў навук ды розных лаўрэатаў, што спадару Дземчуку (на тую пару вялікаму начальніку) нічога больш не заставалася, як аддаць загад Міністэрству культуры скласці каштарыс філасофскага часопіса.

Здавалася, метафізічная авантура вось-вось уцялесніцца ў фізічнай рэальнасці, але тут нешта ў самім часе зварухнулася не на нашу карысць, падзеі замарудзілі сваю хаду, і ў гэтай марудзе Міністэрства культуры падумала: а на халеру культуры філасофія і перакінула праект у Міністэрства адукацыі; і хаця апошняе ад нас быццам не адмаўлялася, але, здаецца, мы самі ўжо прытаміліся ў каторы раз даводзіць пра шлюбную ноч без маладой.

Магчыма, Міністэрства культуры пачувала сябе трошкі вінаватым і таму наўзамен часопісу пагадзілася фінанасаваць штомесяц восем дадатковых старонак да газеты "Культура" (якую тады ўзначальвала Вольга Іпатава), каб на базе рубрык "Эліта" і "Суплёт ідэй" мы маглі стварыць культуралагічны сшытак.

Будзем шчырымі, адразу я не быў у захапленні ад прадстаўленай магчымасці, але ўрэшце пагадзіўся ўзяцца за непасрэднае выкананне гэтай працы. (Калі Алесь Разанаў у тандэме з Людмілай Крушынскай моцна падахвоцяцца, то яны і камень пераканаюць самахоць перакуліцца на другі бок. Прынамсі, так было ў маім выпадку). Зрэшты, акрамя рытарычных здольнасцяў дужкамі прытуленых асобаў, пераконвала і сама ідэя сшытка як папярэдняга канспекта будучага часопіса.

Цяпер я не выключаю, што гэта было памылковым рашэннем, бо калі б мы не загрузлі ў "ЗНО", то зусім верагодна, што дацiснулі б Міністэрства адукацыі і займелі філасофскі часопіс. Але з іншага боку, калі б мы займелі той часопіс, то наўрад ці аднавілася б "Крыніца" і, прынамсі, у тым выглядзе, у якім аднавілася, і, пэўна, засталіся б нястворанымі "Фрагменты" Ігара Бабкова... Хаця... Каб ды кабы, дык на языку раслі б грыбы.

Дарэчы, пра ўласна назву сшытка — "ЗНО". Пэўна, не толькі чытачы, а шмат хто і з аўтараў сшытка па сёння не ведае, што стаіць за гэтымі трыма літарамі — нейкая абрэвіятура, сакральны знак ці выпадковае дурноцце?

Ні першае, ні другое, ні трэцяе. А ўвогуле гэта была цэлая эпапея. Найперш мы распрацавалі метадалогію пошуку назвы. З гэтай метадалогіі вынікала, што мы мусім выправіцца на пошукі назвы адразу ў чатырох накірунках. Першы — малавядомыя беларускія словы, другі — лацінізмы (дамінанта, дыскурс і да т.п.), трэці — грэцкія словы (топас, эйдас і г.д.), чацвёрты — што заўгодна, але каб не як у людзей.

О, гэта была праца дык праца! Два разы я перачытаў слоўка за слоўкам увесь слоўнік Ластоўскага, а пасля тое самае перарабіў і са слоўнікам замежных словаў. Не ведаю, што чыталі мае хаўруснікі, але калі надышоў час падсумавання, то ў нас было столькі прыгожых слоў, што іх, бадай, хапіла б на ўсе сшыткі еўрапейскага кантынента. А нам дык вось не хапіла. Кожнае знойдзенае слова нечым муляла, нечым не задавальняла, нечым само сябе адпрэчвала.

Настаў момант, калі мне падалося, што лягчэй знайсці ў пушчы авечку, якую даўно з'елі ваўкі, чым вартую назву для нашага сшытка.

І вось тут заходзіць у рэдакцыю "Культуры" Алесь Разанаў. Вочы палымнеюць, твар праменіцца натхненнем — быццам яго сёння анёлы ўмывалі. І адразу з дзвярэй паведамляе:

— Знайшоў.

— Не можа быць, — кажу, каб не сурочыць.

Разанаў, як Цыцэрон перад рымскім сенатам, уздымае руку і ўрачыста прамаўляе:

— Зно.

Я ўвачавідкі ніякавею. Што зно? Чаму зно? Якое зно? Навошта зно? Разанаў не адразу разумее, што я нічога не разумею, а зразумеўшы, пачынае тлумачыць.

Я не пераканаНЫ, што на Беларусі знойдзецца чалавек, які здольны пераказаць тое, што кажа Алесь Разанаў. А калі такі чалавек і ёсць, то гэта ўжо, напэўна, не я. Таму далей я буду змушаны карыстацца ўласнай версіяй разанаўскага тлумачэння. Спрошчана яна выглядае так: Разанаў пературос усе беларускія хронікі і ўвесь сучасны лексікон і высветліў (ці вылічыў), што ў фанетычнай аснове калі не большасці, то вельмі многіх сутнаснастваральных словаў знаходзяцца гэтыя тры гукі (-з-, -н-, -о-), натуральна, у розных спалучэннях і не заўсёды ў поўным складзе (звон, дно, знос, зноў і г.д. і да т.п.).

Шчыра кажучы, лагічная аргументацыя разанаўскага тлумачэння не так ужо і моцна мяне пераконвала, але я не мог не даць веры ягонаму вуху.

Дайце веры, у Разанава геніяльнае вуха.

Разанаў чуе слова ў яго яшчэ вільготнай, трапяткой прааснове: можа быць, у вушных ракавінах Разанава (як у марскіх — мора) увесь час шуміць, пераліваючыся, магма тых першагукаў, з якіх потым і ўзнікалі словы? Зрэшты, як у яго гэта адбываецца, не істотна. Але тое, што ёсць (вуха), тое ёсць...

Так -зно- сталася "ЗНО". Яно досыць мірна суіснавала з уласна газетай (як даміньён з метраполіяй), рабіла тое, што лічыла патрэбным, але пры гэтым улічвала, што ягоная свабода досыць умоўная і абараняць гэтую свабоду ад чынавенства даводзіцца не таму, хто робіць сшытак, а таму, хто адказвае за ўвесь тыднёвік.

Магчыма, на погляд збоку, няма асаблівай розніцы паміж першымі і апошнімі выпускамі "ЗНО". Насамрэч, гэта зусім не так (і зусім не таму, што неўпрыкмет адышлі ад непасрэднай працы над "ЗНО" да сваіх новых праектаў Разанаў і Бабкоў). Хаця "ЗНО" і пазначалася як літаратурна-філасофскі сшытак, але не дзеля літаратуры яно стваралася. Больш за тое, я спадзяваўся, што ў "ЗНО" будзе не "літаратурны", а іншы (ад "ЛіМа", "Полымя" і нават "Нашай нівы") як чытач, так і аўтар. Мае спадзяванні не спраўдзіліся, "ЗНО" не змагло прарвацца праз татальную аблогу тых некалькіх тысяч чытачоў і некалькіх соцень аўтараў, што шчыльна атачаюць усе беларускія выданні, незалежна ад таго, пішуць яны пра гісторыю, літаратуру, філасофію ці штучнае асемяненне. Калі гэтая сумная выснова ўвачавідналася, то мне нічога не заставалася, як паныла паўшчуваць сябе за незабяспечаны рэальнасцю аптымізм і шукаць месца для "ЗНО" ў агульным літаратурным дыскурсе. Зрэшты, асаблівай патрэбы шукаць не было. Авангардныя, формавытворчыя і першыя постмадэрновыя акцыі самі шукалі прастору, дзе б маглі стацца заўважнымі для "шырокай" публікі. Таму зусім не выпадкова, што Сяржук Мінскевіч і Алесь Туровіч менавіта на старонках "ЗНО" абгрунтоўвалі сваю канцэпцыю "транслагізму", а Юрась Барысевіч — шызарэалізму, як не выпадкова, што на гэтых жа старонках заманіфеставаў сябе Бум-Бам-Літ і працягвала рэалізоўваць свой творчы патэнцыял Таварыства Вольных Літаратараў.

І ўсё ж такі адважуся сцвярджаць, што не літаратура (як у нетрадыцыйных, так і ў традыцыйных формах) выяўляла асноўнае значэнне "ЗНО", а культуралогія і філасофія — у перакладах і арыгінальных тэкстах. І хаця літаратурныя акцыі (асабліва апошняга часу) былі больш яркімі, больш заўважнымі, але літаратуры ў нас даволі было і без "ЗНО", а філасофскіх тэкстаў не тое што "даволі" — лічы ўвогуле не было. Сёння гэтаму цяжка даць веры, але да з'яўлення "Культуры" практычна ніводнае айчыннае выданне (і ніводнае выдавецтва) не друкавала на беларускай мове тэкстаў (тым болей кніг) з сусветнай філасофскай класікі ці свайго ўласнага метафізічнага досведу. (Ну, можа, дзе адзін-другі тэкст і друкаваўся, усяго не ўгледзіш, але на агульную сітуацыю гэта ніяк не ўплывала). Вось чаму мне падаецца істотным усё, што рабілася ў гэтым накірунку "ЗНО", вось чаму для мяне і сёння застаецца надзвычай важным трактат Ігара Бабкова "Беларуская традыцыя на зломе сэнсаў", надрукаваны ў першых трох выпусках сшытка, вось чаму я заўсёды быў ўдзячны "ЗНО" за тое, што на яго прасторы выявіўся і выразніўся адзін з нашых найцікавых сёння, на мой погляд, культуролагаў — Юрась Барысевіч, што тут адбывалася перакладчыцкае і даследчыцкае станаўленне Валеркі Булгакава і знаходзілася месца тэрміналагічным росшукам Юрася Пацюпы.

І, безумоўна, я буду ўдзячны "Эліце" і "ЗНО" за тэксты Платона, Ратэрдамскага, Шапенгаўэра, Кіркегара, Ніцшэ, Гусэрля, Фрэйда, Вебера, Шпенглера, Ясперса, Леві-Строса, Артэгі-і-Гасэта, Фуко, Дэрыда, Дэлёза, Арто, Льётара, Мукса, Дэбрэя, Калакоўскага...

Зрэшты, я здаецца залішне адхіліўся ў справаздачу, якую, бадай, і ўвогуле не трэба было распачынаць, бо ўсіх, каго хацелася б пералічыць, усё роўна не пералічыш.

Зразумеўшы гэта, я падумаў прыкладна так: не трэба нічога і нікога лічыць, а трэба запрасіць аўтараў сшытка, каб апошні раз усім разам сустрэцца ў прасторы "ЗНО" на, так бы мовіць, "развітальным балі", ці, у іншым лексіконе, — "тусоўцы на ростані".

Што і казаць, рамантычная ідэя. Наіўная і трохі недарэчная, як для эпохі постмадэрна. Але, падобна, мы ўсе яшчэ застаемся трошкі рамантыкамі і нават сентыменталістамі, бо запрашэнне амаль ніхто не абмінуў увагай — шчыры ўсім дзякуй!

Натуральна, "усе" не маглі разам сабрацца ні тэарэтычна (прастора сшытка для гэтага замалая), ні практычна (замала часу было, каб да кожнага дагукацца, а кожнаму адгукнуцца), але мне заўсёды хацелася верыць, што "ЗНО" — гэта той кантынуум, дзе ў адначассі і з аднолькавым значэннем месцяцца як усе тут прысутныя, так і ўсе тут адсутныя.

Алег БЕМБЕЛЬ

ЗНО



*о а д*
*л б у*
*а р м*
*к ы у*
*н*
*я*
*л*
*а*
*г*
*а*
*... іду па в а с т р ы і ...*
*па з л о м е*
*с э н с а ў ...*
*нібы па бітым шкле — хоць галасі!..*
*... шукаю МЕТА — СЭНС ...*
*... а над усім —*
*сІвы СутВАр ...*
*і ўсьмешка Solus Rex-а ...*

Уладзімір АРЛОЎ

ACUDOVIČ FECIT QUOD POTUIT, FACIANT MELIORA POTENTES



Уладзімір КОНАН

## ЗНО ПАМІРАЕ? НЕ, СМЕРЦЮ СМЕРЦЬ ПЕРАМАГАЕ!






*Ляжыць, дрэмле Лявон,*
*На грудзях вырас клён;*
*Калі ж вецер на сьвеце*
*расходзіцца,*
*Шуміць шумна той клён:*
*Янчэ ўстане Лявон —*
*Гэй, Лявоны ў нас не пазводзяцца!*
***Янка Купала***

Сумная вестка напаткала мяне на шаснаццатым паверсе маёй Серабранкі: літаратурна-філасофскі сшытак ЗНО (гэтае загадкавае імя напамінае мне дэвіз "З новай ведай"!) знікае з культурна-нацыянальнай сцэны. З гэтай дрэннай нагоды хочацца паспачуваць маім калегам: дрэнна пачынаем Новы год, спадары! Элітарную культуру выцісняе масавая псеўдакультура. А герояў замяняюць камічныя дублёры. Калі так пойдуць справы і далей, то можам вярнуцца да сітуацыі, якая склалася ў пачатку нашага стагоддзя, калі Маладая Беларусь (народжаная і ахрышчаная ў купелі вызвольнага руху 1905 — 1907 гг.) пачынала з першай легальнай беларускай газеты "Наша Ніва".

Мяне засмуціла гэтая вестка не з-за маіх аўтарскіх амбіцыяў. За тры з паловаю гады (узрост "ЗНО") я, здаецца, выступіў на старонках гэтага па юначаму смелага "Сшытка" адзін раз: апублікаваў бліскучае эсэ Вацлава Ластоўскага "Унія" са сваім сціплым каментарам*. У мяне ёсць дзе сумовіцца з беларусамі, якія яшчэ ведаюць матчыную мову альбо ўспомнілі яе, не зракліся, не прадалі, не аддалі ў палон. Я спачуваю маім маладзейшым калегам, якім наканавана служыць літаратуры і культуры ў наступным тысячагоддзі.

Памятаю той чэрвеньскі падвечорак 1993 года, калі ў старым доме на вуліцы Кірава па закліку рэдакцыі газеты "Культура" сабраліся за "круглым сталом" беларускія філосафы і літаратары. Селі "тварам да твару", умоўна кажучы, традыцыяналісты і мадэрністы. Я і мой калега Мікола Крукоўскі ўзначалілі "правы фланг" першых, а Ігар Бабкоў — "левы фланг" другіх. А калега Валянцін Акудовіч, традыцыяналіст і мадэрніст адначасова, заняў "пазіцыю паміж двух франтоў". Але "вайны" не было. Усё адбылося паводле ўзнёслых словаў малітвы: Да ціхае і мірнае жыцце пажывём ва ўсякім благачэсці і чыстаце.

Зададзенае за "круглым сталом" "паліфанічнае" сумоўе спадарожнічала кароткаму жыццю ЗНО. Даволі скора там узялі верх "мадэрністы". Традыцыяналісты (кажу толькі за сябе і свайго калегу сп. Крукоўскага) не ўсё прымалі, што пісалі і гаварылі прадстаўнікі "новай хвалі" ў літаратуры і філасофіі. Але мы не "нападалі" на іх. Я нават парадаваўся. Бо можна зразумець сталага кансерватара. Але няма нічога больш занудлівага, як малады дагматык.

Толькі за апошні год адзначу цікавыя выступленні ў ЗНО: Галіны Дубянецкай, Люзкі Сільновай, даследаванні Юрася Пацюпы, фрагмент з кнігі Жаны Эрш "Гісторыя еўрапейскай філасофіі" (пра святога Аўгустына), "Нацыяналізм і тэатр" Вячаслава Ракіцкага, незакончанае даследаванне Ірыны Шаўляковай "Метафара і сімвал як стваральнікі "новага міфа". Сёе-тое мяне шакіравала. Асабліва няўмелыя напады на традыцыю, Саюз пісьменнікаў, нейкі правінцыйны "лібералізм" і "плюралізм". Сёй-той з не вельмі маладых аўтараў забыў катэгарычны імператыў літаратурнай і навуковай этыкі: не нападай на тое, чаго не ведаеш.

Але ж наш літаратурна-філасофскі сшытак ЗНО быў запраектаваны "на выраст" новай генерацыі літаратараў і філосафаў. Вось яна, гэтая генерацыя, страціла сваю пісьменніцкую трыбуну. Выхад адзін: стварыць новае рэфармаванае ЗНО. Няхай жыве "Культура", а з ёю — і новае ЗНО.

* Шаноўны Уладзімір Міхайлавіч! Гэта не зусім дакладна. У дванаццатым выпуску "ЗНО" было надрукавана Ваша цудоўнае эсэ "Сусветнае дрэва мастацтва".

В.А.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

## ДЗВЕ ДАТЫ

25 красавіка 1986 года, за дзень да Чарнобыля, я апынуўся ў паўночна-ўсходнім французскім дэпартаменце Нор. Я гасцяваў у Бельгіі і, зразумела, меў толькі бельгійскую візу. Аднак мне хацелася хоць хвіліну пабыць у Францыі і, падахвочаны тым, што ў Заходняй Еўропе з краіны ў краіну можна пераходзіць, як з пакоя ў пакой, я і здзейсніў свой намер. Вакол звінела цывільная цішыня, не замаркочаная пагранічнымі мундзірамі. Я йшоў па лугавіне, па той зямлі, якую скептыкі называюць "задам Францыі". Непаваротныя, як цяжкія скрыні, пікардыйскія каровы скублі траву. Я йшоў у напрамку Ліля, сталіцы дэпартамента Нор, пакінуўшы за сабой бельгійскія гарады Турнэ і Кортрэйк, і, вядома ж, не ведаў, што паміж Турнэ і Кортрэйкам ёсць вёска Койгем, як і не ведаў таксама, што недзе на мяжы з Беларуссю існуе далёкі адсюль украінскі Чарнобыль. Пра Чарнобыль даведаўся праз тры дні, ужо вярнуўшыся дамоў, а пра Койгейм — праз тры гады. Усё йшло сваім немінучым ходам. Услед за невядомым Чарнобылем "праславіўся" і невядомы Койгем.

4 ліпеня 1989 года на дом койгемскага фермера Дэларэ ўпаў савецкі МіГ-23М. Загінуў малады сын фермера. На сваю бяду ён знаходзіўся ў доме... Самалёт — тое, што ляціць с а м о. Які злавесна-прадбачлівы сэнс іншы раз можа ўтойвацца ў словах! МіГ-23М і сапраўды ляцеў с а м. Без пілота. Ляцеў праз дзве Германіі (была яшчэ ГДР), Галандыю, праз усю Бельгію. Мала што бракавала даляцець да Францыі. Лётчык Скурыдзін, напалоханы нейкімі тэхнічнымі непаладкамі, пакінуў сваю машыну ажно ў Польшчы...

Ніяк не ўспомню, хто сказаў, што пра існаванне вёсак і маленькіх гарадкоў вялікі свет звычайна даведваецца тады, калі ў гэтых вёсках і гарадках нараджаюцца геніі і выбухаюць катастрофы.

Дзіна КІРЫЛАВА

## НЕ ТРЭБА ХАЎТУРНЫХ ПРАМОЎ

Калі ласка, не звяртайце ўвагу на мае тужлівыя вочы і на тое, што шкельцы акуляраў сталі вільготнымі. Не, гэта не хаўтуры, гэта — провады. І не пераконвайце мяне. "ЗНО" не памерла (жудаснае слова!), і гэта — не пахаванне... Валянцін Васільевіч адзначыў (і гэта агульнавядома), што пра нябожчыка — альбо добрае, альбо нічога. Па-першае, "ЗНО" — не нябожчык, бо гэта тое ж самае, што лічыць нябожчыцай ранішнюю расу толькі за тое, што апоўдні, калі спякотна і цень амаль знік, яна пераўтварылася ў воблачка... Такім чынам, нагоды для жалобы няма. А па-другое, дазвольце нагадаць, як гэта пачыналася. Бо тое, што ведаю я, невядома больш нікому. Не рабіце круглыя вочы: менавіта мне выпаў вялікі гонар набіраць першы нумар "ЗНО", калі ніхто яшчэ не быў упэўнены (акрамя В.В., мабыць) у тым, ці жыццяздольнае гэта немаўля і ўвогуле ці не пашкадуем мы, што своечасова не перарвалі гэтую цяжарнасць.

Пра нябожчыка непрыстойна казаць кепскае. Але я насмелюся ўсё ж такі прамовіць праўду.

Першы нумар "ЗНО" даўся мне вялікай крывёю. Я ўзненавідзела гэтыя тэксты, складзеныя з быццам бы знаёмых літар, кропак, косак, пытальнікаў, але — не больш за тое. Словы, словазлучэнні, сказы былі настолькі незразумелыя, іхні сэнс быў схаваны настолькі глыбока, што мой сярэдні мозг спачатку разгубіўся, потым збянтэжыўся, а потым сказаў мне: "Гэта —твой асабісты вораг". І сапраўды, засталася адна альтэрнатыва з дзвюх магчымых: альбо аўтар гэтага трызнення з'яўляецца патэнцыйным кліентам шпіталя, што месціцца ў Навінках, альбо ты, даражэнькая, завершаная дурніца. Апошняе, безумоўна, хацелася аспрэчыць.

Не, прэч гэтыя думкі, трэба друкаваць далей. Слова за словам, вось і кропка ўжо бачная... Яшчэ адзін сказ, яшчэ... Але ўнутраная варажнеча павялічваецца і распірае грудзі. Яшчэ імгненне, і я падыду да форткі, адчыню яе і выкіну гэтыя брыдкія аркушыкі з чацвертага паверха ўніз, каб у змрочным задавальненні глядзець на іхні апошні палёт...

Не, гэтак нельга. Гэта не твая асабістая справа, гэта —праца. Зачыні фортку і набірай далей. Засталося ўсяго колькі старонак... А яшчэ В.В. сказаў: "Я буду задаволены, калі два-тры чалавекі з філасофскага факультэта БДУ зразумеюць тут што-небудзь..." Ну, гэта цалкам абсурдна! Рабіць гэтае брыдоцце дзеля двух-трох дзядзькоў з пукатымі вачыма!..

Менавіта так гэта пачыналася... І здавалася, непрыязнь (мяккавата сказана!) не знікне ніколі. Але — цуды ўсё ж такі здараюцца — мой сярэдні, банальны розум крок за крокам уваходзіў у гэтую незнаёмую прастору, навобмацак, спатыкаючыся, падаючы, але — хай жыве пані Упартасць! — другі нумар "ЗНО" ўжо не так раздражняў і псаваў настрой, трэці ж зацікавіў трошку (ужо не памятаю дакладна, хто гэта быў — Ніцшэ або Ясперс, — не істотна). Пачало здавацца, што не такая ўжо гэта і бязглуздзіца... А потым пачалі з'яўляцца не толькі пераклады "з вялікіх і памерлых", але і абсалютна новыя творы, прычым напісаныя адмыслова для "ЗНО". Аўтары шукалі незвычайнае ў звычайным, спрабуючы выказаць банальнымі, зашмальцаванымі словамі небанальныя думкі, спалучаючы часам неспалучальнае. У "ЗНО" з'явілася і няўмольна пашыралася кола аўтараў — усё часцей па рэдакцыі соўгаліся маладыя і даволі нахабныя хлопцы.

Асабліва хачу вылучыць творы, у якія я папросту закаханая (так-так, навошта гэта хаваць?). І ў іхняга аўтара, дарэчы, таксама трошкі. Гаворка ідзе пра несмяротныя, на мой закаханы погляд, філасофска-здзеклівыя эсэ Юрася Барысевіча. І не глядзіце так. Чаму мы не баімся сварыцца і пляткарыць, а светлых, шчырых пачуццяў звычайна саромеемся? Не будзе гэтага! У яго творах — цэлы свет са сваёй асаблівай пабудовай і кодэксам законаў. Знайсці прусака ў талерцы, перліну — ў смецніцы, памірыць Эрас з Танатасам — гэта ж проста сюр!

Такім чынам, "ЗНО" з непажаданай цяжарнасці пераўтварылася ва ўлюбёнага дзіцёнка, якога песціць, цалуюць, сочачы за кожным новым рухам і крокам. І дзіцятка расло...

Ну, далей распавядаць не буду, бо што было далей, вы ўсе ведаеце. Прабачце, што прамова мая моцна зацягнулася. І не зважайце, што ў келіху, які я трымаю ў руцэ, салодкае віно даўно ўжо зрабілася салёным ад слёз. Не, гэта не жалобныя слёзы. І не пераконвайце мяне, што гэта — хаўтуры, гэта — провады...

Людміла КРУШЫНСКАЯ

## Ў



Была зіма. А можа, лета? Не памятаю, чым пасыпала сабе галаву: ці снегам, ці лупінамі ад свежай садавіны-гароднiны, бо Акудовіч паклаў на "кухонны" стол "Культуры" заяву. Па ўласным жаданні. Але жанчыны, як вядома, не любяць паразаў. І зусім спантанна ў мяне вырываецца з'едлівая фраза: "Ага, Валянцін Васілевіч, Вы пойдзеце, а мы тут з Іпатавай вырашылі рабіць надта ж філасофскі дадатак, дарэчы... Шкада толькі, што без Вас..."

Мана дзеля паратунку спрацавала. Эмбрыён "ЗНО" ў той дзень амаль што гвалтоўна прышчапіўся ў арганізме Акудовіча, і ён "зацяжарыў".

Першыя роды прымала ўся рэдакцыя на шэрым ад будаўнічага пылу і цэментных плямаў падваконніку ў доме, што па вуліцы імя першага савецкага дыпламата. Немаўлятка было пяшчотна загорнута ў асноўныя "культура"ўскія палосы-пялёнкі. (Ад "памперсаў" мы наўмысна адмовіліся, каб маленечкі наш "зно"ўчык мог плаваць без усялякіх там перашкод у натуральным водным басейне. Уласных думак, зразумела.

...І я свядома сёння пакідаю ў загалоўку літару "Ў". Бо калі яе дадаць да... Што атрымаецца? Вось іменна! Надта ж гэта цікавая справа: пісаць "ЗНО" зноЎ.

Іван ЧАРОТА

## НАВАГОДНІЯ РЭФЛЕКСІІ Ў СУВЯЗІ З НАШАЙ КУЛЬТУРАЙ

Часта згадваецца, што існуе больш за сотню азначэнняў *культуры*. І ў гэтым нічога дзіўнага. Калі род людскі пачаў адрозніваць плён сваёй дзейнасці ад першатворнага, ён свядома і неўсвядомлена адмяжоўваўся ад *культу*, г.зн. веры, таго, што зыходна было вызначальным. А ў выніку — размыванне ўсіх катэгорый, якія павінны адлюстроўваць сутнаснае, драбленне і здрабненне свядомасных установак плюс, хочаш не хочаш, заканамерная адплата з боку мовы: "культурай" называюць які-небудзь боб-сырэец ці нават хваробатворныя бактэрыі, выведзеныя лабараторным шляхам, "культурным" — чалавека, які звычайна мае пры сабе насоўку, з'яўляецца слова-монстр "культурызм", што азначае мускулапаклонніцтва, шырока ўжытковымі становяцца выразы "палітычная культура", "культура ўжывання спіртнога"... і так далей, па самае, як кажуць, нельга. Толькі з першага погляду гэта парадаксальна.

Між тым, нельга не ўлічваць таксама, што разуменне культуры па-свойму адметнае ў кожнага народа ў пэўны час. Якую ж мелі, маем і ствараем мы, беларусы? Апошнія пакаленні звыкліся з "нацыянальнай паводле формы і сацыялістычнай паводле зместу культурай савецкай". Яна яшчэ не знікла, што б хто ні казаў. І зноў-такі, няма чаго здзіўляцца, калі добрыя намеры будаваць "культуру дэмакратычную" абярнуліся гучным пшыкам, выбухам "мас-, суб-, рок-... культуры".

Ці можна было гэтага пазбегнуць? Можна, бадай, толькі пры ўмове, што разумеем і развіваем сваю культуру не абавязкова пад усімі соценналікімі азначэнямі, тым болей не ў якасці "надбудовы" чарговага зманліва ўяўленчага "базіса", а як спрадвечную існасць, незамененную спадчыну, духоўнае апірышча. Інакш — мець толькі тое, што ствараем, чаго заслугоўваем.

У навагодні час не апошняя патрэба — высветліць, наколькі спрыяльнейшыя перспектывы прадбачацца. Усё верагоднае, калі абапірацца на станоўчы вопыт папярэднікаў, шкодна пераацэньваць, але не варта і недаацэньваць. Мудрыя заўсёды лічылі, што цяжкасці даюцца дзеля ачышчэння. Ды ў нас, як бачым, не выспела патрэба і ачышчацца, і з мудрымі ў гэтым пагаджацца. Таму сацыяльна-палітычным лозунгам неўпрыкмет можа стаць вуху прыемнае: "Чаму ж мне ня пець, чаму ж не гудзець?!" — па прыродзе сваёй карчомны жарт. Дарэчы, таксама твор адпаведнага пласта культуры і знак пэўнай перспектывы.

Логіка, між тым, зноў вяртае да пытання пра мудрасць. І вяртае да адказу, які пры самых розных пошуках усе пакаленні фармулююць у рэшце рэшт прыкладна аднолькава: не ні ў кога не пазычыш, пакуль сам не нажывеш, а самому нічога не ўдаецца, калі спадчыннае ўжо на вецер пушчана.

Добра гэта ці кепска, але трэба пагадзіцца, што для беларусаў мудрасць — найперш у фальклоры і мастацкай літаратуры, у славеснасці наогул. Цікава, што і палітыкі нашы даволі часта спасылаюцца на пісьменнікаў, адчуваючы народ як славесны. Але тут, безумоўна, патрабуецца асаблівая адказнасць як ад палітыкаў, так і ад пісьменнікаў.

А яшчэ, не меншая, — ад друку. Вось каб гэта ўсвядомілася належным чынам і вытрымлівалася! Тады б новы год мог стаць сапраўды новым.

Канкрэтызуючы апошні момант, не лішне звярнуць увагу на бясспрэчна цікавыя захады стымуляваць "любомудрие" газетай "Культура". У актыўны ўжытак вярталіся творы эмігрантаў, іншанацыянальных аўтараў, якіх раней хавала "жалезная завеса". Была забяспечана магчымасць заяўляцца і сцвярджацца ўсім тым, хто адчуў схільнасць да філасофіі, асабліва маладым. Няхай сабе аказіяльна, індывідуальна (у А.Разанава), але ў сувязі з гэтым вызначылася спецыфічная жанравая мадыфікацыя — "зномы". Дарэчы, калі скарыстоўваць падобны прынцып асацыяванняў, напрошваецца яшчэ адно азначэнне: "зносак". На маёй роднай Кобрыншчыне так называюць асаблівае яйка — яго курыца можа знесці даволі рэдка, яно меншае, чым звычайна, памерам, але моцнае. Дык вось пажаданне: каб у нас не перапынілася падтрымка сапраўднай творчасці, з'яўлялася як мага больш мастацкіх і філасофскіх "зноскаў", каб складаўся належны фонд духоўнай культуры. Дай Божа!

Алесь РАЗАНАЎ

## 44 СВЕЧКІ



На развітальным свяце "ЗНО" запальваюцца 44 свечкі.

Трохі розных, трохі падобных.

Пакуль іх не было, мы нечага не бачылі і не разумелі, але яны з'явіліся — і мы пачалі бачыць і разумець (= бачыць вачамі розуму). Ну, не так далёка, не так глыбока, не так высока і не так відушча, як хацелася б, але ўсё-такі...

У гэтым і было стратэгічнае прызначэнне "Зно" — паспрыяць самаспазнавальнай рэчаіснасці ў карэкцыі зроку, зрабіцца органам з н о.

Як агонь залежыць ад свечак, але з імі не супадае, гэтак і з н о залежыць, але не супадае са "Зно". "Зно" ўсё больш застаецца ў гісторыі, у тым, што адбылося, з н о заўсёды застаецца з намі.

Намацанае і абуджанае, яно пазірае, як гараць, паціху знікаючы ў незваротнасць, свечкі.




Алесь АРКУШ

## ВАМ СЛОВА, РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ЭЛІТЫ



Пасьля другога рэферэндуму на Беларусі пачалася новая эпоха. Нашую краіну вынесла на быстрыню падзей як палітычных, так і культурніцкіх, якія непазнавальна зьменяць родны край на парозе XXI стагодзьдзя. Менавіта ў гэтыя апошнія тры гады старога веку выбудуецца чарговая парадыгма "адвечнага шляху".

Не бяруся прагназаваць палітычныя трансфармацыі. Сілы айчынных элітаў задужа кволыя, каб стаць уплывовым фактарам, дзейнасьць якога вырашальна адбілася б на далейшым лёсе краіны. Задужа шмат сусьветных інтарэсаў факусуецца на гэтым кавалачку зямлі — галоўным плацдарме эўрапейскіх падзей наступнага стагодзьдзя. Усё бузе залежыць ад таго, які "расклад" атрымаюць гэтыя інтарэсы і як беларускія палітыкі выкарыстаюць супярэчнасьці і амбіцыі сусьветных "гульцоў".

Іншая справа — культурніцкая. Вонкава тут вельмі складана навязваць свае патрабаваньні і перадумовы (нават Сусьветнаму банку і Газпраму), бо якімі яны мусяць быць, ніхто ня ведае. Культурніцкую парадыгму, бадай, немагчыма змадуляваць з дапамогай разьліку і прагнозаў. Яна паўстае як сумарная раўнадзеючая ўсіх суб'ектаў культуралягічнай прасторы. На вектар зьменаў у першую чаргу будзе ўплываць хуткая і эфектыўная "пераструктурызацыя" культурніцкай эліты і яшчэ, як працяг першага, — ці здолее яна адмовіцца ад учорашняй галоўнай "дактрыны" — канфармізму, якая без ценю сумневу любое згодніцтва тлумачыла проста і даступна, маўляў, галоўнае прыстасавацца і выжыць, любымі высілкамі захавацца. Магчыма, толькі гэтая тактыка ў варунках жорсткай, сілавой палітыкі як Усходу, так і Захаду магла прынесьці плён, квінтэсэнцыяй якога стала Рэспубліка Беларусь. Але падобная тактыка напрыканцы XX стагодзьдзя сябе цалкам вычарпала. Якія-ніякія мы ўжо рэалізаваліся і далей сваю палітыку мусім будаваць не толькі на сьціплых просьбах, але і на годных патрабаваньнях.

Нягледзячы на добра агучваемыя апошнім часам інтэграцыйныя заклікі, цэнтрабежны працэс, распачаты на тэрыторыі былога СССР у сярэдзіне 80-х гадоў, не скончыўся, а наадварот — увайшоў у сваю новую, рэгіянальную фазу. Гэта добра відаць па Расейскай Федэрацыі. Кожны рэгіён Расеі (і не толькі этнічна аформлены) набывае сваю адметнасьць і сваю мікрапарадыгму разьвіцьця. Лакалізуецца і культурнае жыцьцё ў гэтых рэгіёнах. Тое ж самае адбываецца і на Беларусі, хаця і не ў такіх памерах (ня той абсяг). А гэта значыць, што надышоў спрыяльны час для рэгіянальных элітаў. Мінулыя гады існаваў канфлікт (няхай і завуаляваны) паміж сталічнымі і рэгіянальнымі элітамі. Апошнія "падаўляліся" і лічыліся ніжэйшага гатунку, другой лігай. Творчую кар'еру можна было зрабіць толькі ў сталіцы, бо пры цэнтралізаванай эканоміцы сталічная эліта кантралявала ўсе рэсурсы, якія выдзяляліся дзяржавай для культуры. Сёньняшні крызіс сталічнай эліты на тым і палягае — скарачэньне дзяржаўнага фінансаваньня культурнай сьферы. Рэгіянальныя эліты, наадварот, пачынаюць ачуньваць. Яны знаходзяць іншыя, недзяржаўныя крыніцы фінансаваньня — засноўваюць свае выданьні, ладзяць культурніцкія фэсты, друкуюць кнігі. Чым багацейшы рэгіён на традыцыі, гісторыю і здаровую эканоміку, тым актыўней яе эліта стварае сваю культурніцкую інфраструктуру (творчыя суполкі, выдавецтвы, перыядычныя выданьні, тэатры, музычныя калектывы).

У новых варунках павінна зьмяніцца і палітыка цэнтральных культурніцкіх выданьняў. Яны мусяць адлюстроўваць культуралягічную панараму краіны. Ці хопіць на гэта ў іх сілаў і рэсурсаў? Да таго ж колькасьць гэтых выданьняў няўхільна скарачаецца. Вось і "ЗНО" дажывае свае апошнія дні. Шкада, што без яго мы ўваходзім у новую эпоху. Але, літаратурна-філасофскі сшытак сфармаваў пэўнае творчае асяродзьдзе, якое ўжо сёньня падрыхтавана для "аўтаномнай" культурніцкай дзейнасьці, гэтыя людзі выйшлі з шыняля "ЗНО" і будуць працягваць будаваць уласны, сучасны культурніцкі Дом з утульнымі, своеасаблівымі рэгіянальнымі пакоямі.

*г. Наваполацк*



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

## ЗАБЫЦЬ "ЗНО"

### Тэкст і кантэкст

#### 1. Кантэкст

Забыць Венецыю мне гэтак жа цяжка, як і Каралеўства Беларусь.

Бо я ні там, ні там не была.

Валянцін Акудовіч на адной з "лімаўскіх" "гарбат" казаў, што ў постмадэрнізме няма героя і асобы аўтара.

У краіне постмадэрнізму я таксама не была. Таму мне цяжка забыць, што я **ёсць**.

У краіне "ЗНО" я бывала. Таму помніць пра яго існаванне, як рэальнасць, было занадта проста. Хутчэй унутраны постмадэрніст патрабаваў адмовіць гэтае існаванне. За-вумнае, за-вольнае, за-межавае...

Цяпер, калі я пішу для апошняга выпуску "ЗНО", я, якая ёсць, цвёрда ведаю, што забыць "ЗНО" будзе немагчыма.

"ЗНО", у якім я ўжо **не буду** — і не будзе ніхто — пачне набываць "анталагічныя" (у двух сэнсах гэтага слова) абрысы, абрасце легендамі і паданнямі. Будзе вабіць сваёй недасяжнасцю, нечуванымі разгадкамі быцця, як Грааль.

У тым цывілізацыйным пласце, у якім існуюць з'явы, падобныя "ЗНО", перапыненае фізічнае развіццё толькі стымулюе развіццё метафізічнае. Якое ўсё роўна —- рана ці позна —умяшаецца ў анталагічную рэальнасць, зачэпіцца за яе, як паветраны змей зачапляецца хвастом за галінкі высокіх дрэў.

І я прыйду ў ЗНО, заземленае на паперы не ведаю якога выдання, — і скажу: "Нарэшце яго зноў **няма**..."

І зноў прынясу туды творы, дзе я **ёсць**...

#### 2. Тэкст

*Забыць Венецыю...*
*А заадно — і Рым.*
*І Дрэздэн, і Верону, і Варшаву.*
*Ёсць толькі неба, шэрае, як дым,*
*Над горадам, з якога не з'язджаюць.*
*Хто выдумаў —*
*не акуеш душы?*
*І на яе ланцуг знайсці не цяжка.*
*І тут таксама можна добра жыць*
*Між **комінам, і сметнікам,***
***і пляшкай.***
*Вось толькі — пра Венецыю...*
*Пра сон,*
*Пра мора,*
*смерць ад пацалунку мора,*
*Пра вітражы гатычныя акон,*
*Каменных львоў*
*і брукаваны дворык —*
*Забыць... Забыцца...*
*Што Гекуба нам?*
*Што мы — Гекубе?*
*Гамлеты без трона.*
*Квадратныя вітрыны нашых крам*
*Цямней і таямнічай водаў Роны.*
*Нібы гандола, месяц прыплыве,*
*Мой човен залаты,*
*маё чаканне...*
*І ліст асенні на сухой траве*
*Зблісне тужліва*
*маскай карнавальнай...*

Віктар ШНІП

## "НЕ ЗНІКНЕ НЕБА, З ЯКОГА СЫПАЎСЯ СНЕГ"



* * *

*I*

*я ведаў што так усё і скончыцца*
*і будзе на зямлі замест травы снег*
*і будзе на дрэвах замест лісця*
*шэрань*
*ды прыйдзе ўсё-ткі вясна*
*а яна прыйдзе*
*і знікне снег*
*але са знікненнем снегу*
*не знікае неба з якога сыпаўся снег*

*II*

*але са знікненнем ЗНО*
*не знікнем Мы*
*але знікне ЗНО*
*і нехта пашкадуе аб ім*
*і нехта ўзрадуецца*
*і гэта ўсё будзе неба*
*з якога сыплемся Мы*

*III*

*я нічога не ведаю*
*таму так усё і атрымоўваецца*

Валерка БУЛГАКАЎ

## "БЫЦЬ ЕЎРАПЕЙЦАМ ГЭТАК ЖА БЕССЭНСОЎНА, ЯК І БЕЛАРУСАМ"



Некаторыя на першы погляд малазначныя падзеі культурнага жыцця нашай краіны схіляюць, тым не менш, да шырэйшых абагульненняў. Гэта датычыць і пытання агульнай структуры нашага нацыянальнага дыскурсу.

Так ці інакш засведчаныя факты беларускай культурнай практыкі ствараюць млоснае ўражанне, што якія-любя арыгінальныя ініцыятывы ў маштабе нацыянальнага дыскурсу нацыянальнага наратыву загадзя асуджаны на няўдачу. Да гэтага вядуць два асноватворныя шляхі. Па-першае, гэта спробы ажыццяўлення культурнай дзейнасці ў межах, адведзеных дзяржавай, якую апошнім часам чамусьці называюць "беларускай". [...]

Культурніцкая дзейнасць, якая ажыццяўляецца ў гэтых строга ўстаноўленых рамках, як правіла, вызначаецца адсутнасцю якіх-небудзь грамадска рэлевантных вынікаў (у прасторы літаратуры ў савецкія часы гэта прыводзіла да ўзнікнення цікавага феномену — фармацыі беларускіх дзяржаўных пісьменнікаў). Па-другое, гэта імкненне рэалізоўваць уласныя творчыя інтэнцыі насуперак ці, прынамсі, з дыстанцыяй да тых ці іншых дзяржаўных рэгламентацый. Тым самым запачаткоўвалася існасная супярэчнасць, якую можна сфармуляваць наступным чынам: наяўная дыскурсіўная прастора ўсяляк супрацьдзейнічала таму, каб так арыентаваныя творчыя індывіды паўнаварта здзяйснялі свой патэнцыял, адмаўляючы ім у праве на аўтаномнае творчае існаванне. На гэтай падставе наш нацыянальны дыскурс мае, відавочна, суіцыдальную прыроду (па восі: Сяргей Палуян — Янка Купала — Яўгенія Янішчыц) і можа апісвацца ў метафарах "вузіні", "пусткі", "згорнутасці".

Ці рана ставіць кропку ў гэтай гісторыі?

Зрэшты, быць еўрапейцам гэтак жа бессэнсоўна, як і беларусам.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ

## НА АДЛЕГЛАСЦІ



Мая бабуля ўспрымала Бога ў каталіцкай версіі, яе храм называўся касцёлам. Згодна з каталіцкай традыцыяй, яна мела падвойнае імя — Марыя-Магдалена. Яна лічыла сябе полькай і да самага скону памятала некалькі сентыментальных вершаў на польскай мове, што запалі ёй у сэрца яшчэ ў дзяцінстве. Яе бацька Адам ставіўся да пытанняў веры сур'ёзна: муж ягонай дачкі мог быць толькі католікам, і калі яна закахалася ў майго дзеда Ануфрыя, паўстала праблема, бо той быў праваслаўным. Але дзед мой, фармальна прыналежны да праваслаўнай канфесіі, дзякуй Богу, па сутнасці быў стыхійным атэістам і яму было ўсё роўна, у якім храме не маліцца. Таму дзеля добрай справы, жаніцьбы на Марыі, Ануфрый перахрысціўся ў Анджэя. Калі надышоў час ісці Ануфрыю-Анджэю ў войска, трапіў ён, так, прынамсі, сведчыць сямейная легенда, у "Ея величества кирасирский полк". А потым свет падзяліўся на "белых" і "чырвоных", і далей дзед служыў у Чырвонай Арміі. У Мінскім кавалерыйскім палку чырвоных камунараў. І вось тут пачынаецца цікавае...

У складзе "чырвоных камунараў" Анджэй хадзіў на Варшаву. Якім ён быў "палякам", як ставіўся да нацыянальна-рэлігійнай праблематыкі, мы ведаем. Але бабуля?.. Няўжо яе "польская" душа не скаланулася ад думкі, што яе муж ваюе супраць Польшчы? У тым і рэч, што гэты факт ніяк не закрануў сэрца і розуму Марыі. Вось табе і касцёл, вось табе і польскія вершы... Калі што і хвалявала маю бабулю на той час, дык гэта як бы тыя людзі-палякі не паранілі альбо не забілі яе мужа.

Дазволю сабе ад факта сямейнай хронікі перайсці да пэўных абагульненняў сацыяльна-культурнага зместу, да тлумачэння феномену беларускай "пальшчызны". Пальшчызна ў Беларусі — гэта апранаха, якая на ўсялякі выпадак вісіць у шафе. Гледзячы на надвор'е, яе час ад часу дастаюць з далёкага кута, а потым зноў туды ж запіхваюць. Гэта не рэч на кожны дзень. Так было з "польскай верай" майго дзеда: узнікла патрэба стаць "Анджэем" — стаў, але назаўтра на гэта забыўся. Пальшчызна ў Беларусі — гэта таксама побытавая традыцыя і сентымент, як у выпадку з маёй бабуляй: можна праслязіцца над польскім паэтычным радком, але ахвяраваць чымсьці дзеля Польшчы — крый Божа!

Беларус ставіцца да Польшчы збольшага прыхільна (супраць палякаў дзед ваяваў мужна, быў паранены, ледзь не загінуў, але ні тады, ні потым нянавісці да іх не меў). Часам назло маскалям беларус нават любіць Польшчу, але і прыхільнасць, і любоў толькі на адлегласці. Блізкія стасункі разбураюць цёплыя пачуцці. Я ўпэўнены, што калі б Адам Міцкевіч быў бы палякам, а не ліцвінам (беларусам), калі б нарадзіўся ён у Польшчы, а не на нашай зямлі, ніколі не стаў бы ён геніем польскай літаратуры. Бо ягоная рамантычная польскасць не вытрымала б сутыкнення з польскай рэчаіснасцю, польская мара разбілася б аб Польшчу. Адам Міцкевіч меў шчаслівую магчымасць успрымаць польскую мову, інструмент сваёй творчасці, асобна ад носьбітаў гэтай мовы — палякаў. У гэтым Адам Міцкевіч падобны да другога паэта нашай зямлі, таксама класіка — Максіма Багдановіча. Гісторыкі літаратуры і крытыкі схільныя трактаваць той факт, што беларускую мову Багдановіч вывучыў паводле слоўнікаў, а жывой беларускай гаворкі, бадай, і не чуў, як слабы бок ягонай творчасці. Я ж мяркую наадварот: што ні кажы, але і геаграфічна —Яраслаўль, Ялта, і культурна — інтэлігент, і сацыяльна — шляхта, Багдановіч быў "страшно далёк от народа". Прынамсі, далёкі ад таго, што ў нас "народам" называецца. Магчымасць займацца паэзіяй, не азіраючыся на "народ", на носьбітаў мовы, дазволіла яму ў рэшце рэшт стаць класікам, паэтам сапраўды народным. Чаму дагэтуль Беларусь не нарадзіла новага Максіма Багдановіча? Таму, што болей як 70 гадоў мастацтва ў нас "належыць народу". І Міцкевіч, і Багдановіч, і Пушкін пісалі найперш для сябе, для шчыльнага кола інтэлектуалаў. А "народ" быў для іх такой жа далёкай абстракцыяй, як для маёй бабулі —"Польшча", а для майго дзеда — "Бог", які нібыта бомж невядома дзе жыве: то ў царкве, то ў касцёле.

Суседзяў, сваякоў, сяброў, чытачоў і гледачоў трэба любіць. Так, як беларусы любяць Польшчу і Расею — на адлегласці.

Філосаф — вынаходца формулы "Не любіце бліжняга, любіце далёкага", безумоўна, павінен быў нарадзіцца ў Беларусі. І толькі па недарэчнасці, боскім недаглядзе мае іншую радзіму.

Алег ТРУСАЎ

## ЖЫВІ, НАША ЗНО!



Вось, здавалася, і падышоў да канца чарговы этап беларускага адраджэння, бадай, самы працяглы і моцны ў XX стагоддзі.

Распачаты дзесяць гадоў таму, падчас гарбачоўскай перабудовы, ён дасягнуў свайго росквіту ў 1992 — 1993 гг. У тым жа часе на старонках "Культуры" і з'явіўся філасофскі сшытак "ЗНО" — першы прадвеснік будучага трыумфу беларускай філасофіі, якая яшчэ мусіць нарадзіцца на пачатку трэцяга тысячагоддзя хрысціянскай эры.

Вядома, што ў "ЗНО" былі свае "продкі": гэта і вершы Алеся Разанава, і першыя рубрыкі ў "Культуры" пад назовам "Эліта" і "Суплёт ідэй". Калі б нехта 10 — 15 гадоў таму сказаў ва ўвесь голас, што філасофія можа не толькі перакладацца на беларускую мову, але і ствараца на ёй, гэтага чалавека шмат хто палічыў бы за вар'ята. Няма філасофскай школы, не распрацавана тэрміналогія... І наогул, навошта і каму гэта патрэбна, калі і на расейскай мове сапраўдная філасофія ў тым часе амаль не стваралася, моцна скаваная марксісцка-ленінскімі кайданамі, студэнцкая моладзь пазяхала на занятках па "дыямату" ці "гістмату", а з "навуковага камунізму" збягала ледзь не цэлымі групамі.

І вось на пачатку новай эпохі беларускай дзяржаўнасці маладыя беларускія філосафы стварылі унікальную з'яву пад гучнай назвай "ЗНО"! Штомесячныя выпускі "ЗНО" на працягу свайго нядоўгага існавання выстветлілі вялікі патэнцыял філасофскай энергіі ў нашай моладзі, якая з дапамогай дасканалага ведання замежных моваў і пры поўнай адсутнасці цэнзуры раскрыла для сябе найбагацейшы свет амерыканскай і заходнееўрапейскай філасофіі і культуралогіі.

Будучы ўвесь час у няспынным творчым пошуку, наша таленавітая моладзь пераадолела тэрміналагічныя бар'еры і, як з попелу адрадзілася птушка Фенікс, так на старонках "ЗНО" паступова адрадзіліся абрысы новай беларускай філасофскай думкі, якая на грунце спадчыны Ф.Скарыны, С.Буднага, В.Цяпінскага здолела асэнсаваць складанасць сучаснай еўрапейскай філасофіі ў яе гнасеалагічным і метафарычным аспектах.

Але... зноў надышлі часы контррэфармацыі. Мінулы год прынёс новыя "выгоды рынкавага сацыялізму", і... спынілася дзяржаўнае фінансаванне "Спадчыны, "Нашага слова", "Мастацтва"... Такі ж лёс прарочылі і "Культуры". Але знайшліся добрыя людзі — і газета беларускай мастацкай інтэлігенцыі пакуль будзе жыць. Значыць, будзе жыць і "ЗНО".

І таму я жадаю, каб філасофска-літаратурны сшытак "ЗНО" з газетнага дадатку стаў неўзабаве самастойным філасофскім часопісам, які, я веру, будзе існаваць у незалежнай Беларусі на пачатку XXI стагоддзя.

Людміла КОРАНЬ

## ПРА ПОДЗВІГІ



Увогуле папіжоніць — не апошняя рэч. Нават прыкмета маладосці. І з'яўленне ў ЗНО раўназначнае такой энергічнай праходачцы. На пытанне ж, дзе добрай кабеце ўзяць неабходную дзеля гэтага энергію, існуе некалькі адказаў. Напрыклад, той, што стасункі з рознымі людзьмі заўсёды правакуюць на пэўную рэакцыю. Я маю на ўвазе не сацыялогію, не тое, што трэба штодзень іграць розныя ролі, каб упісацца ў звычайныя павароткі. А тое, што сяброўства з адным чалавекам, напрыклад, робіць цябе анёлам, з другім ператвараешся ў небяспечнага тыпа, з трэцім увогуле ў брыду ўваб'ешся. Пакуль чалавека добра не ведаеш, інстынктыўна арыентуешся на ўласны, імгненна складзены па першых прыкметах, стэрэатып. Тлумачу: сустракаюся з В.Акудовічам — і ну проста міжволі раблюся далікатнай і разумнай паненкаю; згадваю І.Бабкова — думаю пра секс; пра А.Разанава (пакуль што) ніколі не жартую. Іншы раз і напалохае ўласнае духоўнае багацце. Бо гарадское жыццё змушае даволі хаатычна і пастаянна — хочаш не хочаш — сутыкацца з сябрамі і несябрамі. А ў студзені 1997 года, як вядома, усё наваколле ўпарта ятрыць у чалавеку звера. Тут ёсць усе шансы кожнае раніцы быць экзальтаваным да невыноснасці

Можа таксама ўзнікнуць і туга па індывідуальнасці. Аднойчы мая сяброўка вырашыла бегаць, каб пастрайнець. Праз два дні, калі за ёю заходзілі іншыя аматары спорту, яна ўжо нікуды не бегла і гаварыла: што той спорт, тая фігура — пакіньце мне маю індывідуальнасць. Мараль вядомая: няхай будзе больш людзей цікавых, поруч з якімі і нехта сярэднестатыстычны раптам робіць подзвігі.

Ільля СІН

## ІЗНОЎ "УСЕ НА ФРОНТ!"

Літаратура ня ёсьць мармуровая калёша, падвешаная да брамы ночы а палове на трэцюю.

Да таго ж, а можа, яшчэ і ў найбольшай ступені, літаратура не зьяўляецца носьбітам і трансфарматарам нейкіх грамадзкіх тэндэнцыяў. Прынамсі, літаратура нашага часу дык дакладна. Бо ва ўмовах надзвычай абгостранай цяпер супярэчнасьці паміж Суб'ектыўным і Аб'ектыўным мастацтва (а разам зь ім і гранічна набліжаная да яго прагрэсіўная культуралёгія) становіцца выказьнікам менавіта суб'ектыўных пачуцьцяў індывідуума. Літаратура папросту ня можа цяпер аддана служыць грамадзтву, як таго шмат хто ад яе патрабуе, бо ўсялякае грамадзтва дэтэрмінуе асобу канкрэтнага чалавека, замінаючы праз сваю ідэалёгію і нават проста сваю наяўнасьць рэалізацыі ейных суб'ектыўных памкненьняў. Таму сёньня кожная прагрэсіўная літаратурная практыка, кожны факт недэтэрмінаванага самавыражэньня ёсьць непрыхаванай барацьбой супраць чужых той ці іншай асобе ідэалягічных пастулятаў, зьяўляючыся пры гэтым выразнай антыграмадзкай дзейнасьцю. Інакш кажучы, суб'ектыўныя памкненьні індывідуума і ідэі грамадзтва маюць розную вэктарную скіраванасьць, і паміж імі вядзецца пэрманэнтнае змаганьне, ня здатнае, аднак, прывесьці да нейкіх канкрэтных вынікаў.

Здаецца, літаратура паступова ўжо ўсьведамляе сваю пазаграмадзкую сутнасьць. Усім зразумела, да якіх стратных вынікаў прывяло мастацтва празьмернае "сяброўства" зь ідэалёгіяй сацрэалізму. Тое самае можна сказаць і пра іншыя віды "любоўных повязяў". Напрыклад, спалучэньне літаратуры і палітычных ідэяў на Беларусі ў пачатку XX ст. мела надзвычай кепскія наступствы як для літаратуры, гэтак і ўласна для палітыкі.

Але ж становішча было трохі зьмянілася, праўда, зусім не надоўга. Быў такі шчасьлівы час, калі некаторыя суб'ектыўныя памкненьні маглі больш-менш пасьпяхова рэалізоўвацца паралельна глябальным плянам і задачам. Акурат такі стан даўно ўжо прызнаны нармальным ці не ва ўсім сьвеце. І менавіта ў гэты час "новай адлігі" і нарадзілася "ЗНО". Гэты сшытак можна, бадай, назваць першым у беларускай культуры ўласна літаратурна-філязофскім выданьнем, а не чарговай бясплённай спробай папулярызацыі сваіх палітычных і грамадзкіх ідэяў сродкамі літаратуры.

Аднак цяпер часы зьмяніліся, і "ЗНО" праз сваю апрычонасьць нават выглядае трошкі недарэчным. Маўляў, не да культуралёгіяў і постмадэрнізмаў цяпер. І беларуская літаратура зноў што ёсьць моцы змушаная рынуцца на абсалютова непрадуктыўную барацьбу на "ідэалягічных франтах". А шкада. Бо колькі разоў ужо можна наступаць на тыя самы граблі замест таго, каб нармальна існаваць у сваёй самасьці?

Адам ГЛОБУС

## НЕВЯЛІКАЕ ПРА ВЯЛІКІХ

**Багдановіч**

Максім Багдановіч падобны да анёла, які ціхенька чытае лірычныя вершы, так ціха, што часам і слоў не разабраць.

**Хрыстос**

Ісус Хрыстос — гэта і невялікая драўляная скульптура ў прыдарожнае бажніцы.

**Міро**

Хуаі Міро прагуляў на дзіцячае пляцоўцы, у пясочніцы, пад сонцам сваё жыццё.

**Гітлер**

Адольф Гітлер жахлівы не тым, што браў на сябе адказнасць, а тым, што нібыта здымаў адказнасць з іншых. Ваюйце, забівайце, знішчайце, а перад чалавецтвам і Богам адкажу я —Гітлер.

**Ван Гог**

На палотнах Вінцэнта Ван Гога вароны ляцяць супраць ветру.

**Прышвін**

Калі другі раз бярэш дзённікі Міхаіла Прышвіна, ведаеш — душа не на месцы. Неперакладны з рускай мовы Прышвін можа вылекаваць душу і вярнуць маральную раўнавагу.

**Леанарда**

Леанарда да Вінчы — гэта метамарфозы аўтапартрэтаў.

**Ленан**

Джон Ленан, як самаахвярны рок-н-рольшчык, ад пачатку творчасці пайшоў шляхам самазнішчэння, таму не істотна, хто, дзе і калі яго застрэліў.

**Далі**

Беларускае "далібог" пішацца з малой літары і не мае дачынення да каталонскага манархіста Сальвадора Далі.

**Крысці**

Агата Крысці — пляжная пісьменніца. Не вакзальная, не прыпыначная, не аэрапортная, бо там збольшага купляюцца яе дэтэктывы, а чытаюцца раманы на пляжах.

**Сарот**

Стыль у Наталі Сарот лёгкі, як вецер на золку з Міжземнага мора.

Жанна ВАСАНСКАЯ

## МУЖЧЫНА, "ЗНО" І "CARE FREE"



Жыццё можна запусціць і запусціць. Як бараду або ракету. Ён імгненна запусціў свой час у гадзіннiку, які падаравала цешча-раўналетка (тая другая, што жыве за Акіянам). Штодзень Ён ставіць подпіс на макеце свайго выдання і запускае артыкулы ў мільёны цікаўных чытачоў і рэкламадаўцаў. Зыходзячы амаль апоўначы з рэдакцыі, звыкла запускае іскру ў старцёры свайго нахабнага, як суцянёр, аўто. Разганяецца і ўшчымліваецца ў Яе шэры двор-калодзеж. Звыкла.

Значна пазней ці занадта рана ў іншым канцы горада Жонка звыкла гатуе каву і запускае Яго ў кватэру. Рацыянальна і моўчкі. Вось Жонка ніколі не запускае свайго жыцця, як і размоў пра ўяўную Яе. Звыкла, бо Жонка.

Яна ж запусціла сваё жыццё адначасова... са скасаваннем часопіса "ЗНО", дзе працавала мастаком.

З тае пары шпалеры насупраць Сонца і акна змянілі колер, вада з крана ўжо не кропае, а ціха і журботна бяжыць.

У шыкоўных парцэлянавых вазах цяпер збіраюцца рахункі за святло, тэлефон, кватэру, віншавальныя тэлеграмы ад бацькі. Толькі ў адной вазе засталіся мужна стаяць "коцікі" з колішняй Вербнай нядзелі. Іх таксама запусцілі — пакінулі без вады. "Коцікі" расквітнелі і пажоўклі.

З нагоды вільготнай зімы Яна трапіла ў кабінет да доктара, бо запусціла жаночую хваробу на некалькі тыдняў. Тыдні складаюцца ў дзевяць месяцаў, ды й не толькі ў дзевяць... Але ж у жаночых хваробах тэрмін — пільная справа. Дзіўна, хвароба, калі яе запусціць, здольная ператварыцца ў іншага чалавека, роднага.

...У выніку калі жанчына запускае сваё жыццё, то мае права запусціць і іншае. Толькі і чужое жыццё можна запусціць па-рознаму.




Мікола КАСЦЮКЕВІЧ

* * *



Што ж гэта за шчасце такое... Зараз, зараз... Недзе было... Ага, вось: шчасце — усвядомлены момант быцця... Намёк зразумеў, зараз усвядомім... Галава, праўда, пасля ўчарашняга... Тае бяды... Спірцікам прамываем, цыгарэткай прасушваем... Нармальна... Звілінамі варухнулі, страсянулі... Нешта блiснула, заіскрыла — ёсць кантакт... Файная рэфлексія атрымалася... Пакуль асэнсоўваў, занатоўваў — сцямнела... Якія ўжо тут "моманты быцця"... Хутчэй небыццё... На сон хіліць, мазгі зусім не вараць... Ідэя!.. Навошта нам мазгі з іхнім розумам... Будзем працаваць выключна на пачуццях... Да адчуванняў прыслухоўвацца... Плынь свядомасці лавіць... Метафізіка, цемра-святло... Іншыя трансцэндэнтныя прыбамбасы... Зараз падключымся... Што там у нас?.. Колькі градусаў?.. Пацягне... Кавай залакіруем, цыгарэтку зверху... Інтуіцыю злавіў... А каб цябе... Досыць ужо гэтых... Прабачце... Настрой патрэбен... Ці вершык на худы канец... На пачатак таксама... Што?.. Ёсць настрой?.. Паганы?.. Ды не, я пра настрой у якасці жанру... Добра, і так бачу, што дарма цыгарэты перавёў... Што там зіхаціць так ярка?.. Няўжо сонца?.. Цьфу ты — зно нейкае... Кыш, кыш!.. Вось я цябе... Тэкстамі... Ніч-чога не разумею... У мяне ж павінны быць тэксты... Класныя такія... Складаныя... Ясна, што ніадкуль... Дык жа напісаць любы можа... Вось калі самі з'яўляюцца... Ну, добра... Паспрабую... Аня-гож... Дзе ў нас што?.. Вось... Словы, шматкроп'і, разбіўкі — усё як мае быць... Перамешваем акуратненька, лішняе здзьмухваем, пачынаем мурыжыць... Здаецца, нешта нахімічылі... Ну і што ў нас атрымалася? Н-да!.. Няёмка неяк... Культурней трэба... Хаця і так падчышчана — плюнуць няма дзе... Эх, шчасце маё, шчасце... Стоп! Гэта ж, здаецца, яно самае... Як гэта?.. Зараз, зараз... Недзе было... Ага, вось: шчасце — усвядомлены момант быцця...

Юрась БАРЫСЕВІЧ

## ЯГО НЯМА?



Што такое чалавек, тэкст і сама рэчаіснасць: прысутнасць або адсутнасць? Ці існуе свет, у якім мы жывем? Ці існуем мы самі?

Ж.Дэрыда атакуе "метафізічны" вобраз быцця як прысутнасці: "Паўсюль ёсць толькі адсутнасць і сляды слядоў". Сляды, якія кажуць нам пра тое, што ўжо адбылося (а таксама прыкметы, якія падказваюць, што павінна адбыцца) — гэта, я б сказаў, прысутнасць адсутнасці. Адпаведна адсутнасць слядоў можна назваць адсутнасцю прысутнасці. Такім чынам, тэзіс Дэрыда можна пераказаць так: "Паўсюль ёсць толькі адсутнасць усялякай прысутнасці і прысутнасць усемагчымай адсутнасці".

Мадэрністы ("фаллогацэнтрысты") стаяць на іншым гледзішчы. Іхнія меркаванні пра быццё можна рэзюмаваць так: "Паўсюль ёсць толькі прысутнасць прысутнасці і адсутнасць адсутнасці". Іншымі словамі, усё існуе самачынна, прычым існуе ўпершыню і ў апошні раз.

На мой погляд, быццё нельга звесці ні да сусветнага "Так", ні да сусветнага "Не". Наяўнасць, як і адсутнасць, не бывае суцэльнай, не бывае татальнай. Словы "так" і "не" адно без аднаго не мелі б сэнсу. Я магу пагадзіцца з дэканструктыўнай філасофіяй, што прысутнасць — гэта адна з формаў адсутнасці, але на той умове, што і адсутнасць трэба разглядаць як разнавіднасць прысутнасці.

Пад маскай наяўнасці часта хаваецца пустата — тады і з'яўляецца жаданне сказаць, што ў чалавеку (у тэксце, у роднай мове) няма нічога свайго. А з іншага боку, у непрыхаванай шчырай пустаце, як у расчыненых дзвярах, заўсёды можна нешта знайсці, намацаць, пачуць скрозь цішыню. З гэтага гледзішча нават у чужой мове няма нічога чужога.

Асноўная дамінанта быцця — гэта не станаўленне (якое павінна скончыцца агульнай і вечнай прысутнасцю) і не распад (які мусіць прывесці да адсутнасці ўсяго і ўсіх), а ўтрыманне раўнавагі паміж стратамі і набыткамі, паміж усім і нічым.

Чалавек, на мой погляд, уяўляе сабой ячэйкавую структуру, вузлы і перапонкі якой складаюць ягонае "я", а ў прамежках паміж імі чалавек — "ніхто". Зрэшты, асоба — гэта не проста "я", а сукупнасць розных варыянтаў (роляў, узростаў) гэтага "я": асоба — гэта "мы" чалавека. Трэба адзначыць, што і чалавечае "ніхто" таксама неаднароднае, бо трансфармуецца з узростам і пераходам ад адной ролі ў грамадстве да іншай.

Чалавек — гэта множнае "я" ці множнае "ніхто"? Мы заўсёды застаемся сабою ці заўсёды застаемся нікім? Борхес: "Ва ўсялякім выпадку, я — ніхто". А можа, усё наадварот, і ва ўсялякім выпадку ніхто — гэта я?

У кожны момант жыцця чалавек з'яўляецца ў свет не толькі тварам (сваім "я"), але і патыліцай (нікім"). Калі зірнуць на чалавека ў ягоным развіцці (прааналізаваць біяграфію ці гісторыю) — мы ўбачым або шэраг розных твараў, або чаргу патыліц. Гістарычнае развіццё праяўляецца не толькі ў новых імёнах, але і ў новых абшарах ананімнасці. Магчыма, ананімнасць не менш індывіудальная за любое імя.

Постмадэрністы мяркуюць, што чалавек — гэта адна з формаў Адсутнасці. Чалавек — гэта татальнае ніхто ("Мяне няма", — сцвярджае В.Акудовіч). Мадэрністы (у прыватнасці, Сартр) даводзяць адваротнае: чалавек — гэта татальнае "я", чыстая суб'ектыўнасць. У Маркса чалавек не мае патыліцы. Вакол усёй галавы ў яго — бясконцы твар (такімі мусяць стацца людзі пры камунізме). Постмадэрністы ж зрываюць, нібы маску, сам твар: вакол галавы мусіць быць суцэльная патыліца.

Паміж тым, на мой погляд, у чалавечага твару даволі часта бывае адсутны выраз (напрыклад, у часе сну, роздуму ці ў чарзе). З іншага боку, патыліца бывае не менш выразнай, чым твар (у адным з мінскіх салонаў я бачыў карціну, на якой былі пазнавальна намаляваныя патыліцы чатырох генсекаў КПСС). Інакш кажучы, чалавечае "я" змяшчае ў сабе і "нікога", а ў нашым "ніхто" прысутнічае і нашае "я".

Паводле Евангелля, апошнія ў зямным царстве людзі (і органы цела — тая ж патыліца?) на нябёсах стануцца першымі. Ды і паводле "Інтэрнацыяналу", хто быў нічым — той будзе ўсім. "Ніхто" — гэта маё alter ego, былое ці будучае, адсутнае на дадзены момант "я".

Ніхто — гэта я без мяне. Адпаведна я — гэта ніхто без нікога. Нішто — гэта ўсё без усяго, а ўсё — гэта нішто без нічога.

Быццё як наяўнасць — гэта адсутнасць без адсутнасці. Адпаведна адсутнасць — гэта прысутнасць, якая не пакідае слядоў, якая свабодна праходзіць скрозь пальцы нашых слоў і думак. Адсутнасць і прысутнасць — два бакі адной стужкі Мёбіуса.

Я — гэта маё alter nemo, адсутнае на дадзены момант "ніхто". Я толькі адна з формаў нікога, але і ніхто — разнавіднасць мяне. Я — гэта адзін з мяне або, што таксама праўда, адзін з нікога.

Такім чынам, чалавек — гэта множнае я, у якім кожны асобны элемент ніхто. Разам з тым чалавек — гэта шматлікае ніхто, дзе кожная часцінка — ягонае мінулае ці будучае я.

**P.S.** Усё сказанае вышэй, зразумела, можна прыкласці як да дыскусіі пра існаванне жыцця на далёкай планеце Акудовіч, так і да праблемы прысутнасці/ адсутнасці "ЗНО" ў культурнай прасторы Беларусі. "Дзікая гусь не мае намеру пакінуць след у вадзе. Вада не мае жадання затрымаць адлюстраванне гусі", кажа дзэнскае прыслоўе.

**P.P.S.** Спытайце, калі ласка, прынца Гамлета, што думае ягамосць пра гэты артыкул.




Ігар БАБКОЎ

## ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ ДЛЯ ГЕРОЯ: ШАМБАЛА

(фрагмэнты рамана "Кавовая цырымонія ў "Хвілінцы")

[...]

ЁН ПАМЯТАЎ: адразу за шпітальнымі шафачкамі пачыналася Нішто, патаемны дом нясправўджанага зьместу рэчаў; праз пустыя вачніцы жыцьцё там угледалася ў сябе, шукаючы нерухомасьці, спакою, спрычыняла ветлае люстэрка, у якім "панта рэй" нарэшце ўгледзела б свой твар, шчодра пазычала зь невычэрпнага радовішча Быцьця.

Шчотка й зубная паста былі з пракаветных часоў, яшчэ Гераклiт імі карыстаўся, ратуючыся ад вадзянкі, яны былі сярод алхімічных прыладаў Альбіуса Ротанда, Сапега вазіў іх у невялічкім куфэрку. Нават Гегель знайшоў ім чыннае мейсца ў сваім паняткавым сусьвеце.

Цяпер яны ляжалі ў шафачцы, побач зь іншымі рэчамі, штораніцы ён чысьціў зубы, палошчучы рот вадой, крыху іржавай, з прысмакам хлёркі. Ён тварыў гэты рытуал, спрабуючы затушыць усе пачуцьці, каб засталіся толькі зубы й рука, цешачы сябе думкай, што прыпадабняецца прыродзе, таксама неўсьведамляючай лёт восеньскага ліста ці плёскат вады, што гэта нязначнае дзэн-практыкаваньне прыдасца яму для нечага іншага.

[...]

*Праціналючы нечаканай празрыстасьцю, ейныя вочы былі адзінай сьветлай плямкай у ягоным жыцьці,* так яму чамусьці падумалася.

Ён перайшоў дарогу й некаторы час бязмэтна брыў па прашпэкту, потым збочыў, знайшоў мейсца, дзе не было людцоў, пасьцяліў паперку й сеў, прытуліўшыся да агароджы. Дзьмуў лёгкі ветрык.

Лявон К. выцягнуў нататнік, у які ён запісваў тое, што адбывалася вакол яго. Калі ён проста сядзеў, сузіраючы навакольнае асяродзьдзе, каля яго часам спыняліся людзі, аб нечым пыталіся, шарушалі ягоны спакой, вымушалі апраўдвацца, паказваць пашпарт, запэўніваць. З нататнікам жа ён нібыта чымсьці займаўся, і хаця ў чым ёсьць гэты занятак, Лявон наўрад ці быў здольны камусьці патлумачыць, у паветры чулася пачуцьцё пэўнасьці й бясьпекі.

Лявон К. знаходзіўся ў стане раз'яднанасьці са сьветам і ўласным жыцьцём, на меркаваньне сьвядамага псыхіятра, у яго назіраліся ўсе прыкметы падваеньня асобы, памножаныя на астэна-дэпрэсыўны сындром і неспрыяльныя хатнія ўмовы. У дадатак да розных пігулак псыхіятар раіў бегаць, піць бром і сябравацца з кабетамі, на апошняе налягаў асабліва, пры гэтым прыцмокваў языком і рабіў непрыстойныя гэсты. У адказ Лявон ласкава называў яго майн Фройнд і ў сваю чаргу раіў больш чытаць, тут жа прапаноўваючы які-небудзь нобэль прайз ноўэл са сваёй бяздоннай торбы альбо проста кніжку з малюнкамі, якую ён часам купляў для дачкі гаспадыні.

З ранку Лявон К. наведваў лекцыі ў несамавітым шэрым будынку на галоўнай плошчы гораду, але пасьля дзьвюх гадзінаў ён быў ужо вольны. Ён адразу ішоў піць каву ў бістро, і яму здавалася, што толькі тут, у бістро, і з гэтага пачаўся ягоны дзень.

Лявон К. пісаў раман, за гэтым абсурдным і няпэўным заняткам час ішоў хутка, увечары ён выходзіў у двор і паліў напісанае за дзень, робячы вялікую радасьць мясцовым падшыванцам.

Часам кава ў горадзе зьнікала, тады пасьля дзвюх ён адразу ішоў дадому і клаўся спаць, вырашыўшы, што калі немагчыма прачнуцца сярод сну, дык застаецца толькі заснуць. Тое, што жыцьцё — гэта толькі сон, было ягонай працоўнай гіпотэзай, якая фактам пакуль не супярэчыла й да таго ж мела доўгую гісторыка-культурную традыцыю.

Праўда, гэтыя сон-наваколье запэўніваў, што ён і ёсьць адзінай і непазнай рэчаіснасьцю, але якраз гэтай гіпотэзе супярэчылі шмат якія факты. Па-першае, рэчаіснасьць ніяк не магла быць трагічным балаганам, а ўсе ягоныя сябры пагаджаліся, што вакол менавіта балаган, і балаган горкі й трагічны. Па-другое, Лявон К. прачынаўся сярод гэтага балагану і тады яму прыходзілі ў галаву яго лепшыя старонкі, ён адчуваў свабоду й гармонію. Было б дзіўна, калі б існавалі дзьве роўныя рэчаіснасьці, калі сапраўдная рэчаіснасьць — свабода, суладзьдзе й творчасьць, дык тое, іншае — напэўна толькі сон.

Лявон К. пісаў раман, гэта быў ягоны спосаб жыцьця, усе ягоныя сябры ведалі пра гэта й часьцяком кпілі зь яго, шкадуючы дворніка, сівога зьнерваванага дзеда, які па-геройску змагаўся з попелам. Яны звычайна сыходзіліся ў Санскрыччыка, а восьмай гадзіне, і бавілі час да адзінаццаці. У студыі, якую той вартаваў, было прасторна й артыстычна, да таго ж шмат якія рэчы, што служылі для нацюрмортаў, можна было выкарыстоўваць па прызначэньні, што яны й рабілі з усёй непасрэднасьцю й артыстызмам.

*Сьветлая плямка ў жыцьці, празрыстыя аловак, якім піша свае пісьмёны Бог,* падумалася яму.

Яна таксама прыходзіла на іхныя сходкі, сядала ў кутку, незаўважна ўваходзіла ў патаемныя сувязі з рэчамі абсталюнку. Тое, на чым нібыта спыняўся яе позірк, нібыта вылучалася з усяго, ажывала. А потым пачыналі здарацца дзіўныя рэчы — сярод гутаркі зьнянацку ўсе замаўкалі й пачыналі бачыць.

Што менавіта, ніхто растлумачыць не мог. Раз-пораз адзін зь іх шалёна выцягваў нататнік, нешта пісаў, і ніхто не спрабаваў пацікавіцца — што.

Санскрыччык, як гэта робяць санскрыччыкі ўсяго сьвету, маляваў Шамбалу. Сьвятая краіна паўставала ў ягоных эцюдах чыстай і нязмушанай, вабіла нечуванай празрыстасьцю. Часам ён пачынаў тлумачыць яе тэарэтычна, але гэта было ўжо ня тое. Усе ветліва слухалі, Санскрыччык пацікаўзаўважаў ветлівасьць і абачліва пытаў Яну, што яна думае пра Шамбалу. Яна ў адказ усьміхалася і ўсе разумелі: так, гэта й, ёсьць Шамбала.

...

... нікейскія трыеры адышлі ў сваё апошняе падарожжа, на пошукі таемнай зямлі, праз усё змушэньне й недасканаласьць сьвету, праз пануючу ўладарна тугу, што нязбытна адшуквае нас у шчылінах набітых кватэрах, сярод крыху сумнагу фэсту жыцьця, ставіць тварам да вечнасьці, і ў гэтым крохкім люстэрку рэчаіснасьць адбіваецца як сон, што сьніцца нікому, — сказаў ён.

Барыс ПЯТРОВІЧ

## З "ФРЭСАК"

### АДНАРАЗОВАСЦЬ



Я зразумеў, што заблудзіўся. Невысокі хвойнічак здаваўся бясконцым. Я йшоў па ім, думалася, ужо гэтак доўга, што дайшоў калі не да Афрыкі, дык да Украіны дакладна. І не было сярод яго ніводнага высокага дрэва, на якое можна было б узлезці, каб агледзецца.

Я быў злы на гэты хвойнічак, і ён, нібы жывы, адказваў мне тым жа: злом. Кожная хвоіка, паўз якую я праходзіў, старалася зачапіць мяне сваёю галінкай, балюча сцебануць па твары альбо ўпіцца ў пляча, нагу. Увесь я быў абчапляны калючай ігліцай, клейкім павучыннем і сухімі шурпатымі галінкамі.

Мне здавалася, што я блукаю тут ужо не некалькі гадзін, а некалькі дзён, некалькі гадоў. Бясконцасць хвойніку памнажалася на бясконцасць блукання, але ў выніку не атрымлівалася бясконцасць жыцця. Наадварот: бясконцасць на бясконцасць давала смерць. Як у матэматыцы: мінус на мінус — дае плюс. Смерць — "плюс". Так, бо нездарма "плюс" — крыжык.

Усе мы нясем свой крыж, але ёсць і такія, што нясуць замест крыжа знак "плюс". А для гэтага знака справядлівае толькі адно правіла: ад перамены месцаў складаемых сума не змяняецца. Як ні складвай бясконцасць хвойніку з бясконцасцю блукання, вынік будзе адзін і той жа смерць, як пры памнажэнні на нуль заўсёды ў выніку будзе нуль. Дарэчы, некалі і знак памнажэння быў падобны да крыжыка: х, а потым замест яго нехта прапанаваў ставіць кропку. Проста кропку.

Дык ці не час і мне паставіць кропку ў гэтым блуканні? Па хвойніку, па жыцці...

Час. Даўно час. Але тады бясконцасць стане вечнасцю, што па сутнасці тое ж самае. А мажліва, яшчэ горш. Бо пакуты, большай за гэткую, нават Бог, нават д'ябал не прыдумаў.

Нашто мне вечная іголка для прымуса (вечнае пяро для асадкі). Што мне бясконцасць сусвету... Мне больш па душы ўсё аднаразовае. Як шпрыц. Як наша Зямля. Як, хацелася б верыць, маё жыццё і я.

### 77-05

Ты ніколі не думаў, што цябе так лёгка падмануць. Ты наогул не думаў, што цябе нехта будзе падманваць. Ты начапіў свой лепшы гальштук і пайшоў на спатканне. Ты доўга стаяў на рагу праспекта і Савецкай і чакаў яе. Ты верыў ёй. Ты нават у думках не дапускаў магчымай няшчырасці. Ты ўзіраўся ў прыпынак, ты чакаў кожны тралейбус і з надзеяй праводзіў вачыма кожны аўтобус. Ты загадваў сабе: калі ў нумары наступнай машыны, што пройдзе міма, будуць дзве сямёркі — значыць, яна хутка прыйдзе. Ты радаваўся, убачыўшы 77-05 на "Жыгулях". Ты гатовы быў стаяць тут да раніцы, але дачакацца яе.

Яна не прыйшла. Яна не прыйдзе. Яна весела смяецца цяпер з іншым. Яна не забылася на спатканне, прызначанае табе. Яна і не збіралася на яго. Яна гуляласа з табою, нібы кот з мышшу: захачу з'ем, захачу адпушчу, захачу сыта прайду міма, быццам і не заўважыўшы, як сцялася тваё сэрца. Яна магла дазволіць сабе ўсё. Яна была гаспадыняю, царыцаю і ведала гэта. Яна захацела пабачыць цябе на рагу праспекта і Савецкай. Яна праехала паўз цябе на тых самых "Жыгулях" 77-05. Ты ўзіраўся ў нумар.

### МАЎЧАННЕ

Між намі расла трава... І якое б пытанне ты мне ні задавала — заўсёды знаходзіўся на яго адзін-адзіны адказ. Было то — туга... Па тым, што мы памяталі і што яшчэ памятала нас. Цяпер думаю я (кажу табе і ты згаджаешся), што гэтак бывае толькі тады, калі страчанага не знайсці, калі ў пакінутае не вярнуцца.

Між намі была трава... Мы былі маладымі. І нас хвалявала блізкасць нашых целаў. Ты пыталася — я адказваў. А можна было проста маўчаць, бо ўсё зразумела было без слоў, бо словы нічога не дадавалі і наогул нічога не азначалі, бо ўсё забівала, тлуміла і тлумачыла сабою адно пачуццё — туга... Па тым, пра што не гаварыць услых нават самыя блізкія людзі і пра што маўчаць тут, побач з намі, чужыя людзі. Ты кажаш (і я згаджаюся), што гэтак бывае заўсёды, калі пра мінулае засталіся толькі ўспаміны, а будучыні зусім няма...

Бо нас ужо — няма.

Няма там, дзе цяпер усе нашыя думкі і пра што ўсе нашыя ўспаміны. Няма там, дзе красуе цяпер трава, што расце між намі...

**P.S.** І ўсё-такі не хочацца думаць, што "ЗНО" будзе "аднаразовым". І таму пісаць некралог не хочацца. Хваліць без прычыны — таксама. Ну а крытыкаваць — тым болей...

Дык што сказаць табе, "ЗНО"? Тое, што ты з'явілася ў свой час, — было нечаканасцю. Больш таго, здаецца, калі б ты не з'явілася сёння, то магло б не з'явіцца і праз 10-20 гадоў. але з'явіўшыся аднойчы — ты не знікнеш ніколі. Бо без цябе цяпер — "народ не поўны"...

Ты ёсць. Ты будзеш. І справа ўсіх нас зберагчы цябе. Мажліва, і сапраўды, "ЗНО" без "Культуры" — не "ЗНО". Але і наша культура без "ЗНО" сёння не ўяўляецца. Дык захаваем жа "ЗНО", каб захаваць культуру.

Ганна КІСЛІЦЫНА

## ЗАЧЫНЯЕЦЦА БРАМА



Сярод кліша сучаснага кінематографа ёсць такі фантастычны вобраз — брама часу, праз якую ў апошнюю хвіліну дзеяння трэба праскочыць, каб патрапіць у другое вымярэнне. Няспынна зачыняецца брама... Вузее акрэец незнаёмага неба... І тым большыя высілкі герояў апынуцца ў новай прасторы, дасягнуць нязнанага часу...

Вось-вось зачыніцца брама. Застаецца ў мінулым ад пачатку невераговны футурыстычны праект "ЗНО, сціпла названы літаратурна-філасофскім сшыткам. Ён з'явіўся ў выніку намаганняў апошніх рамантыкаў ад культуры, дзякуючы якім мы на момант апынуліся ў сваёй будучыні. Мы яшчэ прыдзем да яе, але шлях гэты ляжыць праз мінулае — жыццё іншы раз падкідвае сюжэты, закручаныя мацней, чым у любой кінастужцы.

Мы амаль ведаем абрысы "другой" літаратуры. Яе дасціпна (наколькі гэтае слова можа стасавацца з "другой" крытыкай) пераказалі В.Акудовіч, П.Васючэнка, Ю.Барысевіч, В.Булгакаў. Нельга сказаць, што ўсё ў ёй падабалася і спадабаецца пасля, у будучыні. Мастацкае слова, з аднаго боку, істотна рацыяналізуецца, відавочна зблізіўшыся з філалагічнай навукай, з другога, стане суб'ектыўным настолькі, што перастане быць цікавым нават для саміх удзельнікаў параду індывідуальнасцяў.

Не выключана, што народным пісьменнікам стане той, хто гучней прачытае свой тэкст птушкам альбо гучней бразне ў бум-бам-літаўскі тазік. Нацыянальным героем будуць называць таго, хто паставіць лепшае шоў з нагоды канчатковай смерці айчыннай літаратуры. Мажліва, гэта будзе Ілля Сін, які ўжо сёння рэпеціруе ўласны адыход у небыццё (у нежыццё беларусы без усялякага шоў адыходзяць кожны дзень). Ці Зм.Вішнёў, які зараз заклікае пагглядзець, "як рэагуюць астрожнікі і белыя дыназаўры на крыкі замучаных птахаў і кароў". Відавочна, гэта будзе нехта з цяперашніх пестуноў лёсу, для якіх культура цікавейшая за жыццё.

*Што такое жыццё?*
*Падарунак звычайна непатрэбны.*
*Што такое смерць?*
*Нішто з прэтэнзіяй на нешта.*
*Што такое так і не?*
*Адно і тое ж.*

Сёння гэта прыватны погляд, заўтра — літаратурны стэрэатып.

"Другую" культуру можна прымаць і не прымаць, але ёй гэта ўсё роўна, бо па-першае, яна вырасла з абыякавасці старэйшага пакалення, а па-другое, яна ўжо сёння самадастатковая, а таму і самаўпэўненая сістэма, якая гэтак жа не прымае свет, як і свет яе. "ЗНО" стала рэзервацыяй "другой" культуры, але трэба бачыць у гэтым слове не толькі адасабленне, але і прыхаваны "рэзерв". Грукаңне ў бум-бам-літаўскі тазік — як агулам можна акрэсліць дзейнасць маладзейшых літаратараў — П.Васючэнку нагадвала стук птушыных дзюбак аб шкарлупіну яйка, з якога імкнецца выбрацца ноўнароджанае жыццё... Ці выйдуць з яго жарптушкі, якіх чакаем? Можа, якіх гэтыя — ракавыя, і з'явяцца на свет жорсткія, рацыяналістычныя гЛды? А што, было б цікава пабачыць! Пабачыць сёння, зараз, а не чакаць няпэўнага "заўтра". Пабачыць нязнанае, нячутае — ці не найвышэйшая асалода для літаратара?

Разам са "ЗНО" мы губляем тое, чаго ў нас раней не было — не заангажаваную культуру.

Сяргей ДУБАВЕЦ

## КОЖНЫ НОСІЦЬ У САБЕ ПОМНІК

Няпэўны ўзрост. З раніцы ён зноў перад вялікім трумо. Звонкі радасны крык:

— Пер-фор-манс!

Ад 30-ці да 60-ці. На худых сьцёгнах — чорныя капронавыя панчохі. Тварам падобны да сабакі. На чарапніцы канадка, на патыліцы бокс.

Глядзіць у люстэрка на ўласны чэлес і густа чырванее.

— Ой! — выбягае ў іншы пакой. Адтуль чуваць — валтузіцца, крэхча. Зноў зьяўляецца да трумо праз гадзіну.

Чынны, у галіфэ, кірзавыя боты, гімнасьцёрка без наплечнікаў.

— Сталін!

Не, ня так. Надзімаецца, галаву вышэй:

— Ст-х-алін! Сталліни!



І ціха-ціха, танюткім галасам, аднымі вуснамі:

— Сволач!

Раптам зьнікавеў, азірнуўся. Удумліва:

— Панімаць нада!

Сэкунда — увесь узьвіўся, застыў у палёце, галіфэ-ветразі:

— Кто?!!

Моцны ўдар сабе ў скіўіцу. За рукі цягне сябе да дзьвярэй, вырывае з нагавіц чэлес, засоўвае ў дзьвярную шчыліну, азіраецца...

Хуценька падбег да трумо, перасунуў яго так, каб было відаць ад дзьвярэй. Вярнуўся. Чэлес — у дзьверы, і з размаху дзьвярыма — бразь!

Ані гуку. Страціў прытомнасьць.

Доўга прачухваецца, зашпільваецца. Ужо глухавата, але ўсё адно радасна:

— Пэр-фор-манс!

Надзьмуў грудзі, прышпільвае да гімнасьцёркі гвардыю. Крычыць пачапаеўску:

— Кто стрелял? Кто!

З кухні далятае гук радыё: "Мы тут ня іші вам там".

Дастае пісталет. З гонарам:

— Я стрелял!

Закручвае сабе рукі назад. Позірк увесь час — у люстэрка. Падае на калені. Сочыць, каб карціна. Падносіць рулю да патыліцы. Рознымі галасамі:

— Паўтары, сука!..

— Я не вінават...

Сухі стрэл падломвае яго; спаўзаючы, тварам праязджае па падлозе, пакідаючы за сабой брудна-чырвоны сьлед. У люстэрку — пуста. На падлозе — шкілет, косткі, вапна...

Кожны носіць у сабе помнік.

Зміцер ВІШНЁЎ

## ЗОНА! НАРА! ОРГАН!



Дзівосна — некалькі стагоддзяў я меў нару, у якую меў магчымасць запаўзці і чагосьці там пагрызці, пасмактаць, пажаваць... у рэшце рэшт меў магчымасць папляваць і палаяцца. Але, мабыць, уся справа ў сонечных дысках. Днямі я зразумеў: яны бываюць рознымі — ёсць якія могуць катацца па небе, ёсць якія могуць ляжаць у дупле дрэва. Мы суіснавалі наогул з нейкім незразумелым аб'ектам. Таму зусім не дзівосна, што шмат дзівоснага ў адзін момант раптам вырашыла сысці ў нікуды. Тут я бачу спецыяльную кадыраваную траекторыю, якая прымушае мяне часова кінуць любімую нару і заняцца шпацыраваннем па бярлогах. Вельмі спадзяюся, што мая нечаканая выправа скончыцца квасам і халвой. Таму я заклікаю грамадскасць далучацца да майго шпацыравання.

Мяне засмучае толькі адна акалічнасць — у нары быў цудоўны глыбокі калодзеж. Там вяліся вялізныя люксасовыя акулы. Яны служылі галоўным прадуктам да майго стала. Цяпер мне прыйдзецца хадзіць да ракі і лавіць печкуроў. Але! Я суцешаны, што паспеў выцягнуць з нары свае тыгровыя трусы і каштанавую баньку ў носе. І таму — усе на галоўную плошчу! Усе на плошчу! Мы пойдзем да медзвядзёў у госці.

Алесь ТУРОВІЧ

## СОНЦА ДЛЯ ІКАРАЎ?



Літаратурна-філасофскі сшытак ЗНО на працягу апошніх гадоў адыгрываў, на маю думку, унікальную ролю. Ён аб'ядноўваў у сабе розныя дыскурсы рэчаіснасці. Тут сінтэзаваліся фундаментальныя метадычна-рэфлексійныя культуралагічныя пошукі і пікавы, на мяжы нарматыўнасці выклік "прыстойнаму густу". Калі камусьці захочацца пачынаць сваю філасофскую і культуралагічную адукацыю, то, канешне, варта пачынаць з падшывак ЗНО. Калі хтосьці захоча зразумець квінтэсэнцыю беларускай літаратуры сярэдзіны 90-х (ці, прынамсі, яе эксперыментальны пласт), яму трэба пачынаць са ЗНО. Але той, хто зараз эксперыментуе, стварае тое, што зразумеюць не хутка, на жаль, не звернецца са сваім тэкстам у ЗНО, бо сшытка ўжо няма. Акрамя сацыяльных калізій, на маю думку, тут ёсць эвалюцыйная ўнутраная логіка — пэўная думка можа разлівацца на кнігу, перыядычнае выданне, шматтомнік, іншыя па форме блокі тэкстаў. Яны маюць сваю мяжу. Мае сваю прасторавую часавую мяжу і літаратурна-філасофскі сшытак. Яна і ў гэтых палосах. Знік авангард ці ар'ергард тэкставых самаўяўленняў. Дзякуючы гэтаму знікненню постмадэрнізм не стаў акадэмічным і не знік. Ён разліўся ў прасторы і шукае новых прытулкаў для маніфестацыі.

Магчыма, гэты перыяд у развіцці беларускай літаратуры будзе названы — Час ЗНО. Што будзе за ім? Развіццё і эвалюцыя — на фоне будучых тэкстаў, цывілізацыі літаратуры, якую імкнуцца стварыць ББЛ і ТВЛ і адпаведна паблажлівае і іранічнае стаўленне наступных пакаленняў да "адкрыццяў" дзевяностнікаў. А можа, ЗНО стане сонцам для Ікараў, сёмым небам для чаек па мянушцы Джанатан Лівінгстон.

У любым выпадку дастаткова сказана і выслухана, напісана і прачытана. Вельмі дарэчным здаецца выслоўе часоў жнівеньскага путчу:

— Што будзем рабіць, калі закрыюць газеты?

— Будзем перачытваць старыя падшыўкі.

Алена ТРУСАВА

## ЗЛОМ ГАЛАВЫ, або ЧАТЫРЫ ГАДЫ НАД ФІЛАСОФСКІМ СШЫТКАМ



Я адыходзіла — Ён заставаўся. Пасля трэцяй (а можа, чацвертай) утомнай ночы, праведзенай з Ім адзін на адзін (дні пад улік не бяру — гэтым займалася наша бухгалтэрыя), як жа прыемна было грукнуць дзвярыма і пераможна сказаць: нарэшце ўсё! Скончана!.. Я — вольная!

Да метро праважалі слупы-ліхтары. Слуп на пераходзе быў вельмі нахабны. Ён заўсёды падміргваў мне гарэзным жаўтлявым вокам і запрашаў вальсаваць па асфальце.

— А што? Хадзем! Наўкола ні машын, ні людзей.

Папераздзе — няўклюда-трамвай. Апошні. Але не паспела. Засталося адно — таксі. Кіроўца (без асаблівых прыкмет). За ўсю дарогу — ні гуку, ні зыку. Можа, нямко? А можа, які гвалтаўнік. Тады многага хочаш, шаноўная, будзе ён табе нештачкі прамаўляць, каб потым па асаблівасцях мовы, напрыклад, па грасіраваным, як у французаў, "эр" ты яго апазнала!

План абароны спее імгненна: у наступ! Я першая нейтралізую ліхія намеры! Я... Я культурна распавяду яму... пра газету "Культура".

... Гэтае "ЗНО". Заўсёды позна, лічы, уначы... І ўсё на злом галавы. Філосафы, бадай іх ваўкі, мудрацы называюцца, слова кантынуум перакурочылі на нейкі кантыніўм, косак не ставяць. Вока ды вока за імі трэба, дагляд, як за дзецьмі малымі. А маладыя нашы... Стоп! Прыехалі.

— Колькі я Вам вінна?

— А ничего! Считайте это подарком — за то, что по-белорусски разговариваете. И ночью — тоже.

* * *

... Я адыходзіла, а Ён заставаўся. На наступны дзень я Яго не пазнала. Ён быў чысценькі, вельмі прыгожы і... прыцягальны. Трошкі чужы. Бо я адыходзіла, а над чарговым сшыткам "ЗНО" пасля маіх правак, бясконцых зверак-праверак яшчэ нейкі час чаравалі Андрэй (Вашкевіч, макетаванне) і Наталля (Овад, мастацкае аздабленне).

Я любіла Яго ўсе гэтыя доўгія чатыры гады (на стадыі брыдкага качаняці).

З любоўю і застаюся.

Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ

## ТРЫЗЬНІЦЫ



— ЗНО дае разьвітальны баль, — так сказаў пры запросінах сп. Валянцін, узварушваючы ў маёй галаве рой пытаньняў. І, натуральна, першае сярод іх: як і ў чым туды мушу зьявіцца, каб адпавядаць нагодзе? У якой танальнасьці: ўзьнёслай? адчайнай? элегічнай?.. Сьціпла ці раскошна?.. Якая тут пасуе міна? Што ні кажы, а ўсё ж не абы-якая нагода падумаць.

Думаю гэта я думаю... і сьніцца мне сон. (Колькі ж, аднак, было спробаў давесьці маёй маме глыбокі мікрахвалевы прынцып засяроджанага думаньня — ці, інакш, одуму — калі яно чалавека гэтаю мікрахваляй накрывае ЗНУтры з галавою — і ЗНОсіць у трыдзесятую прастору, каб там, нарэшце, распрастаць туга скручаныя лініі сваіх неверагодных пераменлівых ландшафтаў, — прычым непазьбежна паўстае парніковы эфект неадрознасьці ад ЗНЕшняга засынаньня... Ат, усё марна: яна ўсё адно ўпэўненая, што *пайсьці падумаць* — гэта хітра-наіўны выраз, які часам дзеля канспірацыі ўжываецца замест чэснага *пайсьці паспаць* і азначае дакладна тое самае. Але ж гэта зусім ня так. Тым болей, што сон, пра які гаворка, ня так, урэшце, і сьніўся, як ЗЬНІЎСЯ, і нават ТРЫ-ЗЬНІЎСЯ ў траістым вобразе.)

От нібыта пераймаюць мяне на сходах у якімсьці тлумным фае тры спадарыні прыстойнага быццам выгляду, — і цьмяна ўлоўны даўнейшы зьмест майго зь імі знаёмства вісіць недзе побач, але ўсьлізгвае, — на ўсялякі выпадак я прымаю абаронча-пагрозную паставу і давай задзірацца... слова за слова, і вось ужо мы памалу заводзімся, а яны відавочна ўтрох, і пачынаем спакваля піхацца, і нават узьбівацца на бойку... Тузаемся гэта, а яны паміж іншага пытаюцца: Ты хоць ведаеш, хто мы? — Ды ці мала кім вы прадстаўляцца хочаце, можа, Прасьвятою Тройцаю, вашыя справы... Але ж выходзіць так, што, нібыта, й мае таксама. Працягваю валтузіцца, а сама ўголас гадаю: што — Харыты?.. Музы?.. І гэтак далей пляту, і ўсё міма, за кожны такі назоў кухталя дастаю, ну ўжо зусім, думаю, прападаю; а той зьмест ледзьве ўлоўны, што паблізу лунае, — то на адно мне плячо прысядзе, то на другое, — і нешта такое ўрэшце ці то зь яго, ці то зь мяне вымавілася, кшталту *Тройца ЗНО*... Тут мае харыты лагаднеюць: ну вось, пазнала... А бойка паміж намі ўжо зусім як быццам і ня бойка, а так, гарэзная прыгода, бяскрыўдная й сяброўская...

Такім от чынам, як Наталя кажа. На маё зьдзіўленьне, дзядзькі-знахары паставіліся да гэтага ЗЬНЕНЬНЯ зь не-абы-якою ўвагаю, нават папрасілі запісаць, — што сумленна й выконваю... а ЗЬНЕкуль поўным глыбакадумных мадуляцыяў Зьнічовым белькантам гудзецца:... Галіначка, то ж былі... З-Ь-Н-І-Ц-Ы... Па-за ўсімі сумневамі чуецца — Голас Эксперта. Ну, й сапраўды, што да зьнічак ці там *зьніцаў*, то хто тут можа быць лепш ад Зьніча абазнаны?.. Пэўна, так яно й завецца, на ўзор вадзяніцаў, начніцаў, грамніцаў, таямніцаў... нажніцаў, спадніцаў, завушніцаў...

Гэй, дык якую міну ўзьдзець на баль?!. От, спахапілася... Не магла спытацца, пакуль ІХ ЗЬНІЛА... Зьніла-зьніла, галава, а галоўнага так і не дазналася.

Няўжо ЗНОЎ ныркаваць...




Пятро ВАСЮЧЭНКА

## ФІЛАЛАГЕМА АМЯЛЫ

*Метафары кульгаюць. Таму гэтая філалагема — хіба што развітальны падарунак для "ЗНО", адпаведны мінорнаму настрою. Але гэта, крый Божа, не праекцыя лёсу ЗНО, што вырасла на дрэве "Культуры", ды не прагноз.*

***Аўтар***



Дзіўную гэтую расліну апісваў у "Палескіх рабінзонах" беларускі Жуль Верн, да яе звяртаўся на "ты" Алесь Разанаў, а дзівак Фрэзер прысвяціў ёй шматтомны трактат — плён бясконцага гібення над фаліянтамі ў бібліятэцы.

Амяла адпавядае філалагеме літаратурнай другаснасці, эпігонства або, калі хочаце, постмадэрновым шуканням, калі наватвор караскаецца па ствале старой літаратуры, паўтараючы ягоную форму.

Амяла хіжая — яна адбірае сокі ў гаспадара, але яна верная свайму дрэву.

І калі дрэва, ссечанае або ссохлае, валіцца долу, амяла крычыць — і ў гэтым кароткім крыку не менш сэнсу, чым у дзіўным, няроўным суіснаванні дрэва і "паразіта".

Бо амяла, хіжая, пяшчотная і верная, ужо не шукацьмець новага гаспадара.

Вячаслаў ВАЙТКЕВІЧ

## ХАЧУ АБСУРДУ



Хачу абсурду. Кашчунна? Якога абсурду мне яшчэ трэба? Хіба абсурд нас, лагодненькіх, не апанаваў? Апанаваў, вядома. Апанаваў і запанаваў на Беларусі, як нідзе на еўрапейскіх разлогах. Чаму ж тады мітрэнга? Што за вымудры? Не да вымудраў, здаецца. Так. І ўсё-ткі хачу абсурду.

Хачу, каб гэты абсурд быў апазнаны ўсімі, названы сваім сапраўдным імем, раскрыты і выкрыты, адолены і пераадолены. Хачу, каб, дзеля нас жа саміх, ён душыў бы, як чад, не даваў проста "выжыць". Выжыць трэба, спадарове. Толькі не з розуму. Мо, сутыкнуўшыся з пыхлівай абразінаю абсурду, зніякавеем, а пасля і ачомаемся. Хоць бы так званыя шчырыя працаўнікі на ніве культуры. І даруйце, што я налічу літаральна на пальцах аднае рукі напамінкаў самім сабе, якія б торгалі нас за яшчэ не змярцвелае.

Па-першае. Субстанцыя нацыянальнага апрача ўсяго іншага наўпрост датычыць маралі. Ненацыянальны, безнацыянальны, пазанацыянальны, адным словам — анацыянальны носьбіт культуры не тое што не бывае. Відаць, бывае. Толькі не носьбіт і не культуры. Ды я й не чапаю яго. Хай сабе носіць што носіць. Я торгаюся сам і торгаю блізкага: нельга быць маральным, нават проста "моральным в быту", "морально устойчивым" ці, наадварот, ганарыстым грамадзянінам свету і — стэрыльным ў невынішчальнай анталогіі нацыянальнага.

Гэтыя радкі пішуцца падчас паведамлення пра пісьмо расійскага прэзідэнта наконт аб'яднання (зноў пад рэферэндумныя скокі) Расіі і Беларусі. Я не бяруся прарочыць, ці ажыве праз гэта імперскі мамант. Я бяруся прарочыць адно: які б уздых палёгкі не вырваўся б з грудзей анацыяналістаў сярод нас, што з нацыянальным будзе нарэшце скончана, яно, нацыянальнае (я зусім не маю на ўвазе конча беларускае, я маю на ўвазе субстанцыю нацыянальнага) застанецца, так бы мовіць, вечнай духоўнай матэрыяй. Да нашага апошняга ўздыху — цяжкога зласлівага ці цяжкога радаснага, хто як заслужыць...

Па-другое. Мы ў сваёй грамадзе столькі гадоў перабіваемся без філасофіі. Без сапраўднай філасофіі, а не яе сурагату, пах якой прынялі за водар. Між тым філасофія, як і рэлігія, як і мастацтва, — неадлучаная частка чалавечага існавання, свядомасці і самасвядомасці. У старажытнасці, у сярэднявеччы ды і пазней чалавек, нават самы просты, меў нейкае ўяўленне пра свет і сваё месца ў ім. Нарадзіўся на свет — мусіш думаць. Думанне ўвогуле — гэта адзінае, чаму няма альтэрнатывы.

І вось мы, шчырыя працаўнікі на ніве культуры, традыцыйныя інтэлігенты, схітраемся жыць без арганізаванай унутуры нас думкі, без правільнай артыкуляцыі гэтай думкі. Афіласафізм на ўзор атэізму. Атэізмам мы не толькі што нашкодзілі сабе. Мы проста пашкодзілі сябе духоўна і разумова. Разумова пашкодзім сябе — аж на генетычным узроўні, калі станем чакаць, што да нас прывядуць філасофію. Як прывялі, ледзь не пад прымусам, рэлігію. Прывялі, як няверную сяброўку жыцця. Быццам яна нам была няверная, а не мы ёй.

Па-трэцяе. Мы не дужа цанілі, бо не ведалі сапраўднай цаны, свабоды. Цяпер, дзякуй Богу, крыху цэнім. Але, але. Усведамляем толькі свабоду палітычную ды і з той даўсведамляліся... Свабода ж палітычная — толькі частка свабоды як свабоды. Шукаць свабоды варта дзеля самой свабоды. Інача ўсё абернецца несвабодай. Існуе, даруйце таўталогію, найвышэйшая свабода існавання, экзістэнцыі. А палітычная ды ўсялякая іншая свабода — толькі дзіця яе. Аднак мудрона чакаць слаўнага дзіцяці, калі бацькі ў нашых душах не слаўныя.

Па-чацвёртае. Калі ўсё ж традыцыйнаму інтэлігенту і пашчасціць шукаць і знаходзіць праз церні свабоду, то хай ён не ўпадае ў грэх ганарлівасці. У грэх уратавальнага асветніцтва. Маўляў, ягоная задача, ягонае прызванне і ягоны крыж — несці культуру ў масы. Бясконца бітая карта. І колькі яе не б'юць — не памагае. Асветніцтва, калі глянуць праўдзе ў вочы, — тое ж размеркаванне ўжо зробленага кімсьці ў высілках духу. Тое ж сацыялістычнае размеркаванне. Ніхто не мае адбіраць у чалавека, хоць бы чалавека масы (калі ёсць тая маса) права дайсці да ўсяго самому, прайсці свой, таксама праз церні; шлях, спраўдзіцца ці не спраўдзіцца як асобе. Гэта ёсць неадчужальнае права кожнага чалавечага стварэння на зямлі. Калі ж уверым у святасць асветніцтва, то ўверым у той самы зямны рай, у тую самую ўтопію як бітую на нашых жа вачах карту. І гэта яшчэ мякка кажучы, бо традыцыйны інтэлігент верыць у святасць асветніцтва — размеркавання як у натхняльны наркотык. А мы тут — пра нейкую свабоду, пра нейкую філасофію...

Па-пятае. Пасля таго, што з намі было апошнія два гады, што з намі зрабілі і што мы з сабой зрабіць дазволілі, баламут падкусвае (ёсць такая кніжыца ў хрысціянскага пісьменніка дваццатага стагоддзя Клайва Стэйпяза Льюса — "Пісьмы баламута") зняверыцца ў сваім народзе, засумнявацца ў ім, калі па-навуковаму, як у суб'екце гістарычнай жыццядзейнасці. І праўда, маркота, нуда агортвае. Ды павінна агортваць. Баламут жа не дурны, і падкуеваць умее. А фальшывыя карты ў яго ніяк не канчаюцца. Крыеш тузам, а там — пікавая дама падміргвае. Таму трэба выйграваць чыста, напэўна. Альбо не гуляць у нячэсныя гульні з нячэснымі.

Усе народы, як і ўсе людзі, з якіх яны складаюцца, пад Богам ходзяць. І кожнаму нешта сваё даецца. Дык, можа, нinfinite варта маркоціцца, нудзіцца, што нечага некалі мы не дабралі. Не паўтарылі чагосьці чужога. Ну, не будзем жа паўтараць егіпецкіх пірамідаў ці кітайскага іерагліфічнага пісьма, афінскай дэмакратыі ці рымскага права. Трэба адкрываць саміх сябе. Не выходзіць у людскі гурт у строі, у якім учора суседка выходзіла, а знаходзіць свой. Знаходзіць не штосьці трэцяе, як адна наша суседка похапкам знайсці спрабуе. А менавіта адкрываць саміх сябе. Не гневаючы Бога (накшталт "Краю мой родны, як выкляты Богам!"). Сказана ж у Пісанні: каму многа дадзена, таму яшчэ дадаецца, а каму мала дадзена, у таго яшчэ аднімецца. Я думаю, што мне, вам і ўсім адкрываецца, што гэта і пра беларусаў сказана, пра інтэлігентаў — традыцыйных і нетрадыцыйных — сярод беларусаў.

Калі ж адкрываецца пасля абсурду, то адкрываецца ясней. Ясней і радасней. Вось чаму сёння я хачу абсурду.




"Рада "ЗНО": Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч, Валерка Булгакаў, Сяргей Мінскевіч.

*Тэксты друкуюцца паводле аўтарскага правапісу.*

КАРАНІ

# "ЯГО СТАРЫЯ КУРГАНЫ МО НЕ АДНУ СТАІЛІ БЫЛЬ..."



***Гісторыя ўзнікнення паселішча — справа даўняя і хаваецца за смугою часу. І калі пра гэта недастаткова летапісных звестак, тады ўзнікаюць легенды і паданні. Ёсць яны і ў Капыля.***

Даўным-даўно, на высокай гары, што месціцца і цяпер у цэнтры сучаснага Капыля, стаяў замак. Быў ён такі высокі, што сваімі вежамі нават кранаўся аблокаў. Як ні спрабавалі ўзяць яго ворагі, але не здолелі. Бо акружалі яго высокія земляныя валы, а ля схілаў Замкавай гары цякла паўнаводная на той час рака Каменка. На хвалях не гойдаліся княскія ладдзі, і падавалася, што да скanчэння свету стаяць будзе гэты замак і бруіцца ля яго сцен Каменка. Але здарылася непрадбачнае.

Патануў у Каменцы адзіны сын чараўніцы, што жыла непадалёк ад таго замка. У роспачы сваёй пракляла яна і замак, і рэчку. Сабрала чараўніца ўсю ваду з Каменкі і схавала яе ў нетры Замкавай гары. З таго часу і пачаўся заняпад замка. Сёння толькі невялікая рачулка нагадвае пра былую велічнасць Каменкі, дый тая крынічка, што б'е з-пад Замкавай гары. Вада ў ёй надзвычай смачная. Глынеш з гэтай крынічкі і нібыта адчуваеш подых тых часоў. Сталага веку людзі кажуць, што калі раскапаць Замкавую гару, дык вырвецца адтуль вада і пакрые сабой усё наваколле. Мо гэтае паданне ў некаторай ступені і спрыяла таму, што Замкавая гара амаль цалкам захавалася да нашага часу, чакаючы ўвагі з боку даследчыкаў. У 30-я гады край гэтай гары быў скапаны. Бралі зямлю для будаўніцтва дарогі. Але на гэтым, балазе, разбурэнне яе і скончылася. А падставы для ўвагі да гэтай гары наспелі ўжо даўно. І вось чаму.

Капыль — адзін са старадаўніх гарадоў на Беларусі. Першы летапісны ўспамін пра яго адносіцца да 1274 года. Сярод трыццаці пяці старажытнабеларускіх гарадоў, вядомых нам па летапісах, гэты горад да нядаўняга часу заставаўся археалагічна нявывучаным. У яго даследаванні былі зацікаўлены не толькі навукоўцы, але і мясцовыя ўлады, якія стварылі тут сёлета добрыя ўмовы для археалагічных раскопак.

Археалагічны раскоп плошчаю 120 кв.м быў закладзены на пляцоўцы гарадзішча. Культурны слой помніка мае таўшчыню каля 1,5 м і адносна добрую стратыграфію. Даволі выразна чытаюцца ў ім напластаванні XI—XVII стст. Слой сухі, амаль не захоўвае рэчаў з арганікі: дрэва, скуры, косці, што, падавалася б, значна магло паменшыць яго інфарматыўнасць. Тым не менш знойдзеныя ў ім падчас раскопак рэчы даюць шмат матэрыялу, на падставе якога можна мець уяўленне пра тагачаснае жыццё насельнікаў. Раскопкамі былі выяўлены прылады працы і рэчы побыту, прадметы ўзбраення і ўпрыгожвання.

Так, прылады працы прадстаўлены знаходкамі прабойнікаў, шылаў, свярдзёлкам, сталярнымі нажамі, фрагментамі сярпоў і касы, каменнымі жорнамі і тачыльнымі брускамі, шыфернымі праселкамі на верацяно.

Рэчы побыту прадстаўлены знаходкамі замкоў, ключоў, нажніцамі шарнірнымі і спружыннымі, касцянымі грабянямі. Шмат сабрана керамікі: фрагментаў кухоннага і сталовага посуду. Выяўлены быў і цэлы гаршчок XII ст., што дае магчымасць больш поўна ўявіць выгляд кухоннага посуду старажытнага Капыля.

Узбраенне прадстаўлена знаходкамі наканечнікаў стрэл, дроцікаў, утокам кап'я, шпорамі, касцяной накладкай на лук.

Сярод упрыгожванняў сустрэты фрагменты шкляных бранзалетаў, бронзавая фібула, паліхромная шкляная пацерка, а таксама дзве пацеркі з сердаліку. Але бадай самай цікавай знаходкаю з'яўляецца залачоная шматгранная пацерка ад княскага галаўнога ўбору. Датуецца яна X — XI стст. і паходзіць з зямлі уліччаў і ціверцаў — усходнеславянскіх плямёнаў, якія жылі ў міжрэччы Паўднёвага Буга і Прута, прытока Дуная. Відаць, трапіла сюды гэтае ўпрыгожванне гандлёвым шляхам.

Да ліку цікавых знаходак варта аднесці і знаходку ла-



туннага пярсцёнка. На пячатцы яго змешчана выява крына — квітнеючай лазы. На думку некаторых даследчыкаў, такія пярсцёнкі ў XII ст. маглі насіць княскія дружыннікі.

Знойдзены маленькі крыжык, выразаны з каменю. Радзіма яго — Херсанес, або, па-славянску, Корсунь, адкуль такія крыжыкі атрымалі назву "карсуньчыкі". Адтуль жа прывозілі ў амфарах і віно. Сабрана 25 фрагментаў гэтага віду посуду. Відаць, княскія дружыннікі не супраць былі пацешыць сябе заморскім пітвом. Простыя люд, што жыў у замку, аддаваў перавагу свайму напою — мёду. Знойдзены цэлыя пчаліныя соты, знаходка свайго роду унікальная.

Падчас раскопак сабрана і вялікая колькасць астэалагічнага матэрыялу: косткі свойскіх і дзікіх жывёл, птушак і рыб.

На падставе вышэй пералічанага можна зрабіць выснову, што ў старажытным Капылі, як і ўва многіх гарадах таго часу, былі развіты рамёствы, промыслы, земляробства, жывёлагадоўля, гандаль. Пра наяўнасць рамяства на капыльскім замку сведчыць не толькі адпаведны інструментарый, але і шматлікія знаходкі шлакаў ад металургічнай вытворчасці.

Культурны пласт капыльскага замка не захаваў рэштак тагачаснай драўлянай забудовы. Але меркаваць пра яе магчымасць ёсць. І вось чаму. Знойдзена два дзесяткі кавалкаў глінянай абмазкі, што ўжывалася для трываласці сцен зрубаў. Да таго ж выяўлены і дзве печы — каменкі.

Была зроблена і прарэзка абарончага вала замка. У насыпе яго выразна былі відаць сляды пажарышча — яўныя сведкі нападу непрыяцеля. І што яшчэ цікава, у ніжніх напластаваннях насыпу вала сустрэты матэрыялы ранняга жалезнага веку: чарапкі посуду і гліняное праслица культуры штрыхаванай керамікі, якія адносяцца да першых стагоддзяў нашай эры.

Вядомы Капыль і старажытнымі курганамі, пра якія згадваў некалі ўраджэнец гэтых мясцін, беларускі паэт Анатоль Астрэйка. Раскапаны адзін з такіх курганоў. Вышыня яго больш за 2 метры, дыяметр ля падножжа каля 20 метраў. У ім знойдзена пахаванне паводле абраду трупаспальвання і чарапкі посуду X — пачатку XI ст.

Падсумоўваючы вынікі раскопак, можна адзначыць наступнае. Паселішча на Замкавай гары Капыля ўзнікла яшчэ ў ранні жалезны век і належала старажытным балтам. Прыкладна ў IX — X стст., калі тут рассялілася ўсходнеславянскае племя дрыгавічоў, на гэтым месцы ўзнік феадальны замак, які, магчыма, у XII — XIII стст. перарос у горад. Археалагічныя раскопкі даюць падставу меркаваць, што ўзрост Капыля на 1,5 — 2 стагоддзя большы, чым гэта можна было ўяўляць, зыходзячы толькі з першага летапіснага паведамлення пра яго.

Натуральна, што наперадзе яшчэ шмат адкрыццяў, якія чакаюць даследчыкаў гэтага помніка. Найперш трэба выявіць сляды пасада — вакольнага горада Капыля XII — XIII стст., без чаго, уласна, не могбыць Капыль горадам у поўным сэнсе гэтага слова. Падругое, цікава спалучаюцца паданне і наяўнасць пад Замкавай гарою крынічкі. Не выключана, што тут некалі размяшчалася старажытнае паганскае капішча. Аналагі такім з'явам ёсць дзе-нідзе ў старажытных гарадах, напрыклад у Полацку. Таму патрэба ў працягненні і пашырэнні тут даследаванняў відавочная. І будзем спадзявацца, што гэтай справе будзе спадарожнічаць поспех.

**Лявон КАЛЯДЗІНСКІ**



# ВОБРАЗ АДВЕЧНАГА ШУКАЛЬНІКА

***Без мінулага нельга ўявіць сённяшнюю культуру. Гэта дзве рэчы, якія прыцягваюцца адна да адной незалежна ад любых абставінаў. Яны крочаць побач і атрымліваюць ад гэтага ўзаемнае абагачэнне. Светлае і чорнае, мінуўшчына і сучаснасць — усё пераплятаецца. На Зямлі існуе шмат розных прафесій, якія імкнуцца, як кажуць, раскласці мінулае на далонях чалавецтва. Адна з гэтых прафесій — археолаг. Сёння вашай увазе прапануем гутарку Наталлі ЛУГАВОЙ з аспірантам аддзела каменнага і бронзавага вякоў Інстытута гісторыі АНБ Вадзімам ЛАКІЗАМ.***



**— Вадзім, не сакрэт, што большасць людзей лічаць археалогію нечым патаемным, недасягальным, рамантычным...**

— Што праўда то праўда. Яшчэ са школы ў мяне з'явілася мара стаць археолагам. Хаця, як ні дзіўна, схільнасці да старажытнай гісторыі асабліва не адчуваў. Мабыць, існавала ў галаве гэтая самая рамантыка, і між тым я ўвесь час быў шукальнікам ісціны. Як кажуць у народзе — дашукаўся.

**— Я ведаю, што твае курсавыя працы прысвечаны Дзятлаўскаму раёну. Гэта не выпадковы выбар?**

— Я там нарадзіўся. І да таго ж гэта вельмі маляўнічы куток Беларусі. Шмат празрыстых азёраў, вялікіх прыгожых лясоў. Вабіць вока адметнасць у геаграфічным размяшчэнні: Дзятлаўскі раён нібыта перарэзаны трыма буйнымі рэкамі — Нёманам, Шчарай, Моўчаддзю.

**— Ёсць археолагі практыкі, ёсць тэарэтыкі, а ты кім сябе лічыш?**

— Раскопкі — гэта заўсёды надзея на знаходку, жаданне першым дакрануцца да гісторыі нашых прашчураў. У вольную ад працы гадзіну — вогнішча, печаная бульба, песні і барацьба з камарамі.

Навуковы артыкул — гэта праца за сталом са знойдзеным матэрыялам. Думкі, развагі, гіпотэзы. Па складзе свайго характару я такі чалавек, якому патрабуецца і практыка, і тэорыя. Відаць, археалогія зацягнула мяне ў свае сеці менавіта праз гэты сінтэз.

**— У мінулым годзе ты праводзіў раскопкі ў Шчучынскім і Дзятлаўскім раёнах разам са студэнтамі з Гродзенскага універсітэта. Асноўную частку групы складалі дзяўчаты — працаваць было цяжка?**

— Мы раскапалі тры помнікі, знайшлі цікавы археалагічны матэрыял. А вось адаптацыя дзяўчат да падарожных умоў напачатку выклікала ў мяне сум. Напрыклад, большасць з іх у першы дзень спрабавала чысціць зубы ў рэчцы...

**— Якія раскопкі пакінулі самыя моцныя ўражанні?**

— Леташнія. Калі мы ля паселішча Пархуты-І выпадкова знайшлі пахаванне культуры шнуровай керамікі: каменевая свідраваная сякера, цэлы гліняны ляпны гаршчок, крамянёвая пласцінка — пахавальны інвентар. Цяпер, я думаю, мы здолеем выявіць дату распаўсюджвання на Панямонні культуры шнуровай керамікі.

**— Апошнім часам на мытнях затрымліваецца шмат кантрабанднага тавару, які ўяўляе сабой гістарычную каштоўнасць...**

— На жаль, гэта сур'ёзная праблема. Прывяду адзін толькі выпадак. У 1978 годзе каля вёскі Падвялікае мясцовы жыхар знайшоў медную сякеру, якая добра захавалася. Летам 1993 года яна была прададзена за межы нашай краіны. Падобных непрыемнасцяў многа. І гэта пры тым, што знаходкі з медзі і бронзы сустракаюцца на Беларусі даволі рэдка...

**— Дзякую за размову. Поспехаў табе і новых багатых здабыткаў на археалагічнай ніве.**

*На здымках: археолаг Вадзім Лакіза дэманструе знойдзены гліняны ляпны гаршчок; шукальнікі адвечных скарбаў ля мястэчка Бершты.*



## АРХІЎ

*Канечне, характар і спецыфіка ўмоў шматгадовай падпольніцкай дзейнасці і вязніц сказаліся, не маглі не сказацца, што тут гаварыць. Выхоўваўся і гартаваўся ён на лепшых традыцыях рэвалюцыйнай ахвярнасці і гуманістычнай высакароднасці, маральнай адказнасці і абавязку. Натуральна, шмат што ішло тут і ад маці-прыроды, адмысловай славянскай закваскі. Усё гэта куды як зразумела, і тым не менш даўно не адпускае пытанне: адкуль у яго было столькі душэўнай шчырасці і нясхібнай праўдамоўнасці, падкрэсленай адкрытасці і праматы? І ў характары асобы, і ў творах... Адназначна на тое, мабыць, ніхто не адказаў бы ні тады, пры яго жыцці, не адкажа і зараз.*

*Піліп Пестрак. У нашай пісьменніцкай супольнасці гэта быў рэтраарыгінал — у найлепшым разуменні дадзенага паняцця, чалавек з надзвычай высокім парогам асабістай сумленнасці і прыстойнасці, падкрэслена самабытны і непаўторны. Схільны да парадоксаў і дасціпаў, добры прамоўца, майстар вядзення дыскусій на самыя розныя тэмы, няўтомны дбайца аб усім абсягу роднакультур'я і роднамоў'я... Несумненна, даследчык ягонай творчасці Кузьма Хромчанка абгрунтавана заўважае: "Захаплялі ў ім незвычайная эрудыцыя, начытанасць, прываблівалі сапраўдная любоў да літаратуры, вялікая павага да кнігі, здзіўлялі неардынарнасць мыслення, выключная прынцыповасць і бескапраміснасць заўсёды і ва ўсім, нарэшце, падкупляў нейкі праставаты, па-народнаму дасціпны пестракоўскі гумар, ад якога станавілася цяплей на душы".*

*Ці не ўсім, хто ведаў пісьменніка, запаў ён у душу сваім ваяўнічым непрыняццем паказнога і наноснага ў чалавеку і яго жыццядзейнасці, тым больш адкрытай хлусні і падману. У адстойванні праўды і справядлівасці, дабра П.Пестрак дзеяў не вагаючыся ні на помірг. Дзеяў цвёрда, рашуча, да канца. Пры гэтым яму ставала смеласці і адвагі запаліста палемізаваць не толькі са сваімі творчымі пабрацімамі, але і з высокімі дзяржаўцамі. А час для такіх рэчаў не сказаць каб быў спрыяльны. Калі ж пісьменнік у нечым меў рацыю і цвёрда адчуваў слушнасць сваёй пазіцыі, то быў бязлітасным у выраку асобам безадносна да іх пасад і званняў. Нездарма і мастацкае слова ўспрымалася ім не інакш як у іпастасіі "меча прамяністага".*

*Здзіўляла многіх дзівосная па сваёй прыродзе спалука ў асобе Піліпа Пестрака абвостранай парткамуністычнай свядомасці і супраціву любым этакратычным захадам, сабранасці і адмабілізаванасці ваяра за "светлае будучае" рабочых і сялян і ў той жа час волі нутранога самаадчуцця, самадастатковага спакою, рэлаксацыі.*

*Кажуць, дастаткова няпроста складваліся ў яго дачыненні з некаторымі заходнебеларускімі літаратарамі. Як бы там ні было, канкрэтныя факты сведчаць аб тым, што ён аб'ектыўна высока ацэньваў талент, скажам, і Максіма Танка, і Янкі Брыля...*

*Нядаўна, працуючы з архіўнымі матэрыяламі, давялося натрапіць на цікавы дакумент — ліст П.Пестрака да Максіма Танка, датаваны маем 1971 года. У ім асоба пісьменніка паўстае ва ўсёй сваёй характарыстычнай адметнасці. Толькі што закончыўся чарговы, шосты з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі, на якім са справаздачным дакладам выступіў старшыня СП М.Танк. П.Пестрак лічыць, што яго імя ў шэрагу момантаў незаслужана абыдзена дакладчыкам, а ў выніку праца за справаздачны перыяд засталася ацэненай неаб'ектыўна. Але няхай мяркуе сам чытач...*

***Мікола МІКУЛІЧ***

# "Я ВЫРАШЫЎ НАПІСАЦЬ..."


*Піліп Пестрак.*

Дарагі Максім!

Пры сустрэчы на вуліцы мы, вядома, не маглі высніць тых ці іншых недахопаў-недамоваў у тваім дакладзе на з'ездзе, якія датычаць мяне, Пестрака. Я вырашыў пра гэта напісаць.

Першае — пра Ленініяну. Ты гаворыш: "Новымі творамі ўзбагацілася і беларуская Ленініяна..." І далей: "Імкненнем дапоўніць і дамаляваць "ленінскі партрэт" адзначаны аповесці і апавяданні Івана Шамякіна ("Лёс майго земляка", "Эшалон у Германію", "Хлеб") і г. д." Гэта ўсё добра, правільна. А калі гаварыць папраўдзе, першым апавяданнем ленініяны было апавяданне маё пад назвай "У тую восень" (пра Леніна). Надрукавана яно ў часопісе "Беларусь" недзе ў лютым 1970 г. І пасля вось з'явіліся апавяданні Шамякіна.

Другая мая праца на тэму Ленініяны — гэта расказ аб тым, як я дайшоў да ленінізму як да светапогляду, надрукаваная ў часопісе "Дружба народов" № 9 1970 г. пад назвай: "Таков был путь". Ка мне ў месяцы студзені 1970 г. звярнуўся з пісьмом рэдактар часопіса Сяргей Баруздзін з просьбай даць што-небудзь для Ленініяны, бо ў іх партфель пра гэта быў беднаваты. І вось я даў: "Таков был путь". Як жа быў удзячны Баруздзін — прыслаў харошае таварыскае пісьмо, хваліў маю пісаніну, назваў яе "блестящей". Чаму не ўспомніць пра гэта на з'ездзе? Гэта ж для нашага пісьменніцкага агулу толькі плюс перад грамадствам, народам.

Другое. Калі гаворыш аб прозе, пералічваеш усё напісанае, пачынаючы ад "Жыта" Асіпенкі, варта было б успомніць і маю кнігу "Серадзібор". Ты ж абзац аб прозе пачынаеш так : "Вялікая частка беларускай прозы адлюстроўвае пасляваенную мірную працу нашага народа, працоўны гераізм калгаснага сялянства" і г. д. А "Серадзібор" іменна напісан на тэму аднаўлення калгаснай гаспадаркі пасля вайны і, па-мойму, напісан нядрэнна. Мне за гэту кнігу прысуджана Дзяржаўная прэмія імя Якуба Коласа. Паўстае пытанне: як можна гэтага не заўважаць, ды яшчэ тады, калі масавы чытач захапіўся гэтай кнігай? (Гэта мне добра вядома.)

Трэцяе — аб санетах. Тут заўважаецца наяўная аблудная работка нейкага майстра. Ты гаворыш: "Дарэчы, многія нашы паэты, як змовіўшыся, звярнуліся нядаўна да формы санета. З цэлымі вянкамі санетаў выступілі А.Звонак, Н.Гілевіч, Хв.Жычка, В.Макарэвіч, А.Сербантовіч, Я.Сіпакоў і г. д. А праўда гаворыць, што пачатак санетам даў Пестрак — гэта значыць я. Пасля мяне тут жа хутка надрукаваў тры санеты А.Звонак. Мною напісана дванаццаць санетаў. Можна прасачыць гэта ў часопісе "Полымя" за 1959 год. У тым жа годзе ўслед за мною друкаваў і Звонак. Ясна, што той, хто ўкладаў матар'ялы па паэзіі для даклада, мяне выключыў свядома, так, як зрабіў гэта Мележ з "Серадзіборам". Адным словам, у нашым Саюзе поўзае здрада.

Гаворачы пра паэзію наогул, пералічваючы творы паэтаў, трэба было ўспомніць і маю паэмку "Слова пра Мінск". Яна напісана ў 1949—1950 гг., а выдадзена ў 1968 годзе і прысвечана 50-годдзю нашай Беларускай рэспублікі. Паэмка варта таго, каб пра яе сказаць пару слоў.

Чацвёртае. Гаворачы аб працах літаратуразнаўчага характару, трэба было ўспомніць і маё выступленне на тэму: "Гісторыка-рэвалюцыйная тэма ў беларускай літаратуры". На гэтую тэму я выступаў у Саюзе, і гэтая праца была надрукавана ў "ЛіМе". Тэму заказваў мне Кулакоўскі. Аб ёй інфармацыю напісаў у "Праўду" Іван Новікаў.

Ну вось — бадай што, і ўсё. Мне здаецца, варта вынесці ўсе гэтыя заўвагі хоць бы на прэзідыум.

Далучаю ў знак доказу свае "дасягненні": першы том твораў з вершамі і апавяданнямі; чацвёрты том, "Серадзібор"; паэмку "Слова пра Мінск".

У першым томе надрукаваны вось гэтыя дванаццаць санетаў, якія нейкі майстра ад здрады пастараўся перад з'ездам "забраць сабе ў кішэню". Санеты ў кнізе пачынаюцца на стар. 118.

14 мая 1971 г.

Да пабачэння!

Піліп ПЕСТРАК

**Публікацыя Міколы МІКУЛІЧА**



## *КРЫЖАВАНКА "ПАЭЗІЯ"*

**Па гарызанталі:**

**1.** Паэт, які ўславіў Лауру. **4.** Выдатны беларускі паэт і празаік. **7.** Паэма П.Антакольскага. **10.** Раздзел з кнігі "Таямнічасць" Р.Гамзатава. **12.** Паэт і перакладчык. **13.** Першыя вершы — першыя......... у паэзіі. **15.** Традыцыйная тэма рускага фальклору. **18.** Вершаваны памер, страфа з 8 радкоў. **20.** Нямецкі паэт і мовазнаўца, рамантык XIX ст. **21.** Свяшчэнная кніга Іслама. **22.** Рускі паэт-сімваліст. **23.** Аўтар слоў песні "Толькі з табою", "Бывайце здаровы". **24.** Рымскі паэт-сатырык II стагоддзя н.э. **25.** Пачатак творчасці.

**Па вертыкалі:**

**2.** Сучасная беларуская паэтэса. **3.** Выдатны старажытны індыйскі паэт (прыблізна V стагоддзе н.э.). **5.** Руская паэтэса, аўтар "Рэквіема". **6.** Ён падарыў сусвету Айбаліта. **7.** Імя чэшскага паэта Неруды. **9.** Рускі паэт-дэмакрат. **10.** Вершатворца. **11.** Драма ў вершах М.Лермантава. **14.** Аўтар "Блакаднага дзённіка". **17.** Атрыбут багіні справядлівасці. **19.** Выдатны беларускі паэт, аўтар паэтычнага зборніка "Ave Maria".

**Па зігзагу:**

**4.** Адна з паэтычных мініяцюр А.Разанава. **8.** Іспанскі паэт (быў забіты франкістамі). **16.** Чатырохвершныя творы ўсходняй паэзіі.

КУЛЬТУРА
**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 11.02.97. у 15.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3300
Замова 226
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**